№ 9 (25) 1997

# Каталіцкія навіны

Інфармацыйны бюлетэнь

Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла



*"...заклік Хрыста, укрыжаванага і змёртвыхпаўсталага, можа стаць асноваю новага братэрства, у якім адны прымаюць другіх, бо ўзаемна любяць адзін аднаго".*
*Ян Павел II*





# ПАКЛІКАННЕ І ПАСЛАННІЦТВА СВЕЦКІХ ВЕРНІКАЎ У КАСЦЁЛЕ І Ў СВЕЦЕ

**«Ідзіце і вы ў мой вінаграднік»**
*(пар.Мц 20,3-4)*

*«Гэты заклік, абвешчаны Хрыстом, датычыць не толькі біскупаў, святароў, законнікаў і законніц, але ўсіх, таксама свецкіх, якіх Бог прызывае асабіста, даяраючы ім выконваць місію ў Касцёле і ў свеце»*
***Ян Павел II***
***Christifideles laici, n. 2***

II

У папярэднім артыкуле (гл.КН № 8/1997) пад такой жа назвай была абмеркавана адгартацыя Папы Яна Паўла II *«Christifideles laici»* – «Свецкія каталікі». Яна змяшчае ў сабе сінтэз вучэння Рыма-Каталіцкага Касцёла пра пакліканне і пасланніцтва свецкіх вернікаў у Касцёле і ў свеце, пра іх задачы ў «новай евангелізацыі». Тэмай дадзенага артыкула будзе спроба даць адказы на пытанні:

**Кім з'яўляюцца свецкія вернікі ў Касцёле? Якія яны маюць правы і абавязкі?**

У Кодэксе кананічнага права чытаем: «Вернікі – гэта тыя, хто праз хрышчэнне і далучэнне да Хрыста былі сфармаваны Людам Божым і, стаўшы на гэтай падставе ўдзельнікамі святарскага, прароцкага, валадарскага пасланніцтва Хрыста, згодна з уласнай пазіцыяй кожнага, пакліканы выконваць місію ў свеце, якую Бог даверыў Касцёлу.

Касцёл, сфармаваны і ўпарадкаваны на гэтым свеце як калектыў, існуе ў Каталіцкім Касцёле, якім кіруе пераемнік Пятра і біскупы ў супольнасці з ім» (кан.204 §1 і 2).

Кожны вернік хоча ведаць, кім ён з'яўляецца ў Касцёле, каб потым задаць сабе пытанне: «Што мне трэба рабіць, паколькі я «тым кімсьці з'яўляюся»? Альбо інакш, каб свецкі вернік змог прыняць і выканаць сваю задачу ў свеце, яму патрэбна яснае і глыбокае пачуццё ўласнага самавызначэння сярод Люду Божага.

Адразу ж неабходна заўважыць: свецкія вернікі не належаць да духавенства, але дзякуючы менавіта гэтаму, яны не з'яўляюцца "другім гатункам" сярод ахрышчаных. Яны не з'яўляюцца ў Касцёле прадстаўнікамі асяроддзя, якое завецца «мірскім светам», але, будучы Касцёлам, пакліканы Богам жыць у свеце для асаблівага прызначэння – ажыццяўляць кансэкрацыю ці асвячэнне свету (ККК 31).

*

Працягваючы пошукі адказу на пытанне, кім з'яўляюцца вернікі ў Касцёле, звернемся да дакументаў Другога Ватыканскага Сабору, Папы Яна Паўла II, Катэхізма Каталіцкага Касцёла, а потым да Кодэксу кананічнага права. Знойдзеныя элементы адказу выпішам і прадставім у форме, якая аблегчыць наш роздум над тым, ці функцыянуе ў свядомасці і ў жыцці чытача дадзенага артыкула элемент праўды пра ўдзел свецкіх вернікаў як дзейсных суб'ектаў у жыцці Касцёла.

**Свецкія вернікі:**

пакліканы – падобна як біскупы, святары, законнікі і законніцы, – Езусам Хрыстом да працы ў Яго вінаградніку, гэта значыць, у Касцёле (DA 33, ChL 2);

яны – паўнапраўныя члены Касцёла, ахопленыя яго таямніцаю і адораныя своеасаблівым пакліканнем (КК 31; ChL 9; ККК 897);

яны не толькі работнікі вінаградніка Божага, але складаюць яго арганічную частку (ChL 9);

з'яўляюцца Касцёлам, а не толькі належаць да Касцёла (ChL 9);

яны – дзеці Божыя, аб'яднаныя з Хрыстом і Яго Целам, якім з' яўляецца Касцёл сілаю святога хрышчэння (ChL 10; *пар. Абрады хрышчэння дзяцей, n.64);*

яны – духовая святыня, дзякуючы намашчэнню Духа Святога (КК 10; ChL 13; *пар. Абрад хрышчэння дзяцей n.49);*

яны – члены Хрыста і члены Яго Цела, гэта значыць, Касцёла (ChL 12);

яны – удзельнікі паслугі – місіі – функцыі: святарскай, прарочай і валадарскай Хрыста (КК 31; ChL 13 і 14; ККК 897), а таксама Яго годнасці (ChL 15);

яны пакліканыя да асвячэння свету знутры. Свет – гэта іх сфера і прылада для рэалізацыі хрысціянскага паклікання (КК 31, 32; ChL 15; ККК 897);

яны пакліканыя да святасці ва ўмовах жыцця прафесійнага і грамадскага, да дасканаласці ў любові праз: прыняцце ласкі Хрыста; актыўны ўдзел у літургічным і сакрамэнтальным жыцці Касцёла; асабістую малітву; імкненне да справядлівасці; практыку любові ва ўсіх жыццёвых сітуацыях і службе іншым людзям – асабліва ўбогім і церпячым, ведучы іх да паяднання з Богам; будову супольнасці Касцёла і ўдзел у Яго місіі (КК 40 і 42; ChL 16 і 17).

З вышэйпададзенага вынікае, што свецкія вернікі – гэта суб'ект адказных заданняў і абавязкаў у Касцёле і ў свеце.

Кодэкс кананічнага права прымае гэтыя падыходы, канкрэтызуючы іх не ў адным пункце і пашыраючы там, дзе гэта неабходна.

У шасці канонах (Кніга II «Люд Божы», разд.I) пералічаны абавязкі ўсіх вернікаў, а менавіта: захаванне супольнасці з Касцёлам (кан.209); святасць жыцця і асвячэнне Касцёла (кан.210), пашырэнне Божай весткі аб збаўленні (кан.111); паслухмянасць пастановам душпастыраў (кан.212), задавальненне патрэбаў Касцёла (кан.222 §1); падтрымка сацыяльнай справядлівасці (кан.222 §2). Што датычыць правоў, то Кодэкс называе: вольнае выказванне сваіх поглядаў (кан.212); права на духоўную дапамогу: права вернікаў на дапамогу з боку пастыраў, а таксама права пастыраў на такую ж дапамогу з боку вернікаў (кан.213); уласны абрад і ўласны шлях духоўнага жыцця (кан. 214); свабоднае ўтварэнне задзіночанняў і правядзенне сходаў (кан.215); права на апостальскую дзейнасць (кан.216), права на хрысціянскае выхаванне (кан.217), свабода даследаванняў і публікацый (кан.218); свабодны выбар стану (кан.219); права на добрае імя і ахову ўласнай інтымнасці (кан.220).

У васьмі наступных канонах (той жа Кнігі, разд.II) абавязкі і правы свецкіх вернікаў удакладняюцца. Яны апублікаваны на беларускай і польскай мовах у «Каталіцкіх навінах», № 2(18) 1997, с.6-7, а таксама ў Сінадальных матэрыялах, сш.3, с.61-62. Тут прыведзены іхнія галоўныя думкі. Найбольш значнымі з'яўляюцца каноны 225 і 227. Яны сведчаць пра супрацоўніцтва пэўных асобаў і групаў свецкіх вернікаў у эфектыўным пашырэнні Божай весткі аб збаўленні сярод усіх людзей; аб насычэнні зямнога, часовага жыцця евангельскім духам пры дапамозе свецкіх вернікаў і ў абставінах, калі людзі толькі ад іх могуць пачуць Евангелле і пазнаць Хрыста, каб толькі яны мелі на ўвазе тое, што абвяшчае Magisterium Касцёла, а таксама асцерагаліся прадстаўляць уласныя погляды як вучэнне Касцёла. Наступныя каноны звяртаюцца да праблем сужэнства, бацькоўства (кан.226); хрысціянскага і тэалагічнага навучання свецкіх вернікаў (кан.229); даручэння свецкім касцельных функцый і служэнняў (кан.224, 228, 229, 230); падрыхтоўкі да выканання заданняў, асвятляючы пытанні заработнай платы і страхавання (кан.231).

Неабходна заўважыць, што, калі духоўны ці свецкі вернік жадае рэалізаваць сваё пакліканне і пасланніцтва ў канкрэтнай сферы жыцця Касцёла ці свету, то ён можа разлічваць на дапамогу касцельных уладаў. Гэта дапамога ў выглядзе энцыклік, адгартацый і папскіх лістоў, дакументаў рымскіх кангрэгацый, дырэкторый Епіскапату, сінадальных пастановаў, распараджэнняў біскупа і г.д.

Кожны дакумент касцельных уладаў, які дапамагае рэалізаваць пакліканне і пасланніцтва верніка, трэба, перш за ўсё, расцэньваць як мадэль, пры дапамозе якой можна лягчэй рэалізаваць свае правы і абавязкі ў Партыкулярным Касцёле, напрыклад, у дыяцэзіі.

*Кс. Станіслаў Паўліна fDP*

**У "Сінадальнай бібліятэцы"**
**Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі**
**выйшлі з друку:**
**Адгартацыя Яна Паўла II**
***"Christifideles laici"***
**("Свецкія вернікі")**
***"Сінадальныя матэрыялы"* —**
**сшытак 4,**
**прысвечаны сужэнству і сям'і.**

# ПАСТЫРСКІ ЛІСТ

## НАПЯРЭДАДНІ ПЕРШАЙ ПЛЕНАРНАЙ СЕСІІ СІНОДУ МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ І ПІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

***"Аднавіць усё ў Хрысце"***
*(пар.Эф 1, 10)*

25 сакавіка 1996г., для дабра вернікаў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі, я склікаў Сінод. Між іншым, ён мае на мэце высвятліць фактычны стан багацця веры, пагрозы і вынікаючыя адсюль выклікі, а таксама акрэсліць дзеянні, якія служылі б паўнейшаму фармаванню хрысціянскіх пастаў Люду Божага.

Урачыстая інаугурацыя Сіноду адбылася 29 верасня 1996г. у Мінскай катэдры. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі ўсіх парафій абедзвюх дыяцэзіяльных супольнасцяў. Яны атрымалі тады сінадальную свечку і сінадальны ружанец – сімвалы сінадальнай працы і малітвы.

Ад урачыстасці святога Міхала Арханёла, Апякуна Сіноду, і да сённяшняга дня адбываліся пасяджэнні Каардынацыйнай Камісіі Сіноду, а таксама Дэканальных і Парафіяльных Сінадальных Супольнасцяў. Прадметам іх пасяджэнняў была тэма "***Пакліканне і місія свецкіх вернікаў у Касцёле і ў свеце***", а таксама некаторыя юрыдычныя рэкамендацыі.

Працу Камісіі і Супольнасцяў падтрымлівалі штодзённа малітваю святары, законныя сёстры і свецкія вернікі перадусім у часе Парафіяльных Сінадальных дзён і Святой Імшы ў "*Малітве верных*". За малітвы і сінадальную працу сардэчна ўсім дзякую: "Божа, заплаці!"

Вынікам праведзенай сінадальнай працы з'яўляецца *Праект Статутаў*, які быў накіраваны ўсім, гэта значыць 70 членам Сіноду, каб яны азнаёміліся з ім і выказалі свае думкі, зрабілі заўвагі, удакладненні. Усе яны будуць абмеркаваны падчас Першай Пленарнай Сесіі Сіноду, якую я склікаў дэкрэтам ад 2 верасня г.г.

Гэтая Сесія адбудзецца ў касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску 29 і 30 верасня г.г.

Пішу вам аб гэтым усім з патрэбы сэрца. Бо я радуюся цяперашняму сінадальнаму руху і яго першым вынікам і прашу, каб таксама і вы, ведаючы праўду пра Сінод, падзялялі са мною радасць і ўдзячнасць Пану Богу і людзям за гэты дар, такі каштоўны для жыцця і развіцця Каталіцкага Касцёла на Беларусі.

Сінод пачаў сваю працу размоваю з вернікамі аб іх пакліканні і місіі ў Касцёле і свеце, паколькі свецкія вернікі – гэта самае шматлікае і моцнае грона людзей, якія ўтвараюць Касцёл на Беларусі.

- Гэта вы, умілаваныя, захавалі скарб святой веры, калі была толькі маленькая група святароў;
- гэта вы перадалі і надалей перадаеце гэты скарб наступным пакаленням;
- гэта вы акружалі і акружаеце апекаю мясціны Божага культу;
- гэта вы на практыцы праяўлялі і праяўляеце свой удзел у святарскай, прароцкай і валадарскай місіі Хрыста, а таксама ў Яго годнасці;
- гэта вы, умілаваныя, паказалі, што з'яўляецеся пакліканымі асвячаць свет уласцівым вам і незаменным ані біскупамі, ані святарамі, ані законнымі сёстрамі чынам.

Першая Пленарная Сесія Сіноду падсумуе ваш уклад у будову Хрыстовага Валадарства на Беларусі і ўхваліць прапановы, якія, пасля зацвярджэння, паводле права Каталіцкага Касцёла, стануць дыяцэзіяльным правам і ўказальнікам да лепшае будучыні.

На заканчэнне гэтага пастырскага Ліста яшчэ раз дзякую вам за пазіцыю людзей, веруючых у Бога ў Тройцы Святой Адзінага, якая дае цудоўнае сведчанне прыналежнасці да Каталіцкага Касцёла і ад усяго сэрца прашу вас: трывайце на малітве ў інтэнцыі Сіноду. Маліцеся разам з намі:

"Мы стаім перад Табою, Духу Святы, як грэшнікі, сабраныя, аднак, у Імя Тваё: прыйдзі да нас, застанься з намі, напоўні нашыя сэрцы, навучы нас, што мы павінны рабіць і куды ісці. Пакажы нам, што выбраць, каб з Тваёю дапамогаю мы ва ўсім падабаліся Табе. Ты сам будзь нашым дарадцам і пачынальнікам нашых намераў. Амэн."

Ад усяго сэрца благаслаўляю ўсіх вас:
У Імя Айца і Сына і Духа Святога. Амэн.

**Мінск-Пінск, 05.09.1997г.**

***+ Кардынал Казімір Свёнтэк***
***Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,***
***Апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі***

# LIST PASTERSKI

## PRZED PIERWSZĄ SESJĄ PLENARNĄ SYNODU ARCHIDIECEZJI MIŃSKO-MOHYLEWSKIEJ I DIECEZJI PIŃSKIEJ

***"Odnowić wszystko w Chrystusie"***
*(Ef 1, 10)*

Dnia 25 marca 1996 r. dla dobra wiernych Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej, zwołałem Synod. Ma on na celu między innymi: poznać faktyczny stan bogactwa wiary, jej zagrożenia i wynikające stąd wyzwania oraz wyznaczyć działania służące pełniejszemu ukształtowaniu postaw chrześcijańskich Ludu Bożego.

Uroczysta inauguracja Synodu odbyła się dnia 29 września 1996 r. w katedrze mińskiej. Wzięli w niej udział przedstawiciele wszystkich parafii obu wspólnot diecezjalnych. Otrzymali oni wtedy świecę i różaniec synodalny – znaki pracy i modlitwy synodalnej.

Od Uroczystości św. Michała Archanioła, Patrona Synodu do dziś, odbywały się posiedzenia Komisji Koordynacyjnej Synodu oraz Dekanalnych i Parafialnych Zespołów Synodalnych. Przedmiotem tych posiedzeń był temat: ***"Powołanie i posłannictwo wiernych świeckich w Kościele i świecie" oraz niektóre przepisy prawne***. Prace Komisji i Zespołów wspierali modlitwą kapłani i siostry zakonne codziennie, a wierni świeccy przede wszystkim w czasie parafialnych Dni Synodalnych oraz podczas Mszy św. w *"Modlitwie wiernych"*. Za modlitwy i prace synodalne wszystkim składam serdeczne podziękowania: "Bóg zapłać"!

Wynikiem dotychczasowych prac synodalnych jest *Projekt ustaw*, który został skierowany do wszystkich, tj. 70 członków Synodu, aby z nim się zapoznali i opracowali swe opinie, uwagi, uzupełnienia. Wszystkie one zostaną omówione podczas Pierwszej Sesji Plenarnej Synodu, którą zwołałem Dekretem z dnia 2 września br.

Sesja ta, odbędzie się w kościele pw. św.. Szymona i św. Heleny w Mińsku, w dniu 29 i 30 września br.

Piszę do Was o tym wszystkim z potrzeby serca. Raduje się bowiem z dotychczasowego ruchu synodalnego oraz z jego pierwszych wyników i pragnę, abyście także Wy, znając prawdę o Synodzie, dzielili ze mną radość i wdzięczność Panu Bogu i ludziom za ten dar, tak cenny dla życia i rozwoju Kościoła katolickiego na Białorusi.

Synod rozpoczął swą pracę od rozmowy z wiernymi o ich powołaniu i posłannictwie w Kościele i świecie, ponieważ wierni świeccy stanowią najliczniejsze i najtrwalsze grono ludzi tworzących Kościół katolicki na Białorusi.

- To Wy Drodzy, zachowaliście skarb wiary świętej, gdy była tylko maleńka grupa kapłanów;
- to Wy, przekazaliście i nadal przekazujecie ten skarb następnym pokoleniom;
- to Wy, otaczaliście i otaczacie opieką miejsca kultu Bożego;
- to Wy, praktycznie ukazywaliście i ukazujecie swe uczestnictwo w misji: kapłańskiej, prorockiej i królewskiej Chrystusa oraz w Jego godności;
- to Wy Drodzy, okazaliście, że jesteście powołani do uświęcania świata w sposób Wam właściwy niezastąpiony ani przez biskupów, ani przez księży, ani przez siostry zakonne.

Pierwsza Sesja Plenarna Synodu podsumuje Wasz wkład w budowę Królestwa Chrystusowego na Białorusi i uchwali wnioski, które po zatwierdzeniu zgodnie z prawem Kościoła katolickiego, staną się prawem diecezjalnym i drogowskazem ku lepszej przyszłości.

Kończąc ten *List pasterski*, jeszcze raz dziękuję Wam za postawę ludzi wierzących w Boga w Trójcy Świętej Jedynego, dającą wspaniałe świadectwo przynależenia do Kościoła katolickiego i proszę Was jak najserdeczniej: trwajcie na modlitwie w intencji Synodu. Módlcie się razem z nami:

*"Stajemy wobec Ciebie, Duchu Święty, jako grzesznicy, zgromadzeni jednak w Imię Twoje: Przyjdź do nas, pozostań z nami, przeniknij nasze serca, naucz nas, co mamy czynić i dokąd zdążać. Ukaż nam, co należy wybrać, abyśmy mogli z Twoją pomocą we wszystkim się Tobie podobać. Ty sam bądź naszym doradcą i sprawcą naszych zamierzeń. Amen."*

Z całego serca błogosławię Was wszystkich: W imię Ojca i Syna i Ducha Świętego. Amen.

**Mińsk-Pińsk, dn. 5.IX.1997 r.**

***+ Kazimierz Kardynał Świątek***
***Arcybiskup metropolita mińsko-mohylewski***
***Administrator Apostolski Diecezji pińskiej***



# СІНОД
## МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ І ПІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

### KOMUNIKAT
**z posiedzenia Komisji Koordynacyjnej Synodu**

Dnia 2.09.1997r. w Mińsku, odbyło się 14 posiedzenie Komisji Koordynacyjnej Synodu pod przewodnictwem J. Em. Ks. Kardynała Świątka.

Posiedzenie rozpoczęto po Mszy św. koncelebrowanej i Modlitwie brewiarzowej.

**1.** Zatwierdzono *Szczegółowy Regulamin Pierwszej Sesji Plenarnej Synodu* poświęconej ***"Powołaniu i posłannictwu wiernych świeckich w Kościele i świecie".***

**2.** Ustalono Porządek Dzienny.

**3.** Ustosunkowano się do projektu *Modlitewnika synodalnego*.

**4.** Zlecono Cynodalnej Grupie Liturgicznej opracowanie pomocy duszpasterskiej związanej z obradami Sesji.

**5.** Omówiono organizację pracy Sesji.

**6.** Powołano szereg instytucji synodalnych.

**7.** Poczyniono Szereg uwag autorom projektu trzeciego tematu synodalnego: *"Formacja do kapłaństwa i formacja stała kapłanów".*

Obrady zakończono modlitwą.

***Ks. Stanisław Pawlina fDP***

### КАМУНІКАТ
**пасяджэння Каардынацыйнай Камісіі Сіноду**

2 верасня 1997г. у Мінску адбылося чатырнаццатае пасяджэнне Каардынацыйнай Камісіі Сіноду пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка, якому папярэднічала канцэлебраваная Святая Імша.

**1.** Быў зацверджаны *агульны рэгламент Першай Пленарнай Сесіі Сіноду,* прысвечанай ***"Пакліканню і пасланніцтву свецкіх вернікаў у Касцёле і свеце".***

**2.** Вызначаны парадак дня.

**3.** Зацверджаны праект *Сінадальнага малітоўніка*.

**4.** Сінадальнай літургічнай групе даручана падрыхтаваць душпастырскую дапамогу, звязаную з пасяджэннямі Сіноду.

**5.** Абмеркаваны арганізацыйныя пытанні працы Сесіі.

**6.** Створаны шэраг сінадальных інстытутаў.

**7.** Зроблены шэраг заўваг аўтарам праекту трэцяй сінадальнай тэмы: *"Фармацыя да святарства і пастаянная фармацыя святароў".*

Пасяджэнне закончылася малітвай.

***Кс. Станіслаў Паўліна fDP***

## Парафіяльнае свята ў Мінскай катэдры

26 верасня ў Мінскай катэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны адбылася ўрачыстая Святая Імша, якую канцэлебраваў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк. Прысутнічалі святары з Мінскага дэканату. Кардынал К.Свёнтэк у сваім казанні падчас Імшы звярнуў увагу на асаблівае значэнне Панны Марыі ў жыцці кожнага хрысціяніна. Ён прыгадаў уласны шлях святара, які прайшоў праз лагеры Сібіры. Малітва *Ave Maria* адыграла асаблівую ролю ў яго жыцці, не раз давала сілы і мацавала надзею. "Даверцеся Марыі, і Яна прывядзе вас да Езуса", – сказаў на заканчэнне Яго Эмінэнцыя.

**З. А.**



## Папа наведаў Бразілію

З 2 да 6 кастрычніка г.г. Ян Павел ІІ знаходзіўся з душпастырскім візітам у бразільскай сталіцы, дзе ён удзельнічаў у Другой міжнароднай сустрэчы сем'яў.

## Спецыяльны Сінод для Аўстраліі і Акіяніі

Спецыяльнае Пасяджэнне Сіноду Біскупаў, прысвечанае Аўстраліі і Акіяніі, адбудзецца ў Ватыкане напрыканцы 1998 г. Ягоная тэма – "Езус Хрыстус і народы Акіяніі – ісці Яго шляхам, абвяшчаць Яго праўду, жыць Яго жыццём".

## Папа абвясціў тэму наступнага Сусветнага дня міру

"Справядлівасць кожнага чалавека нараджае мір для ўсіх", – гэтыя словы Папа Ян Павел ІІ абраў лозунгам бліжэйшага Сусветнага дня міру (1 студзеня 1998г.). У спецыяльным паведамленні з Ватыкана для прэсы звяртаецца ўвага на тое, што дадзеная тэма ўказвае на асабістую адказнасць кожнага мужчыны і кожнай жанчыны за суіснаванне людзей паводле прынцыпаў справядлівасці. Гэта неабходная ўмова міру для ўсіх. У паведамленні таксама чытаем: "Побач з справядлівасцю, якую мы патрабуем ад іншых, існуе наша справядлівасць, што належыць іншым. Разам з выкарыстаннем права на справядлівасць павінна існаваць таксама выкананне абавязку быць справядлівым. Справядлівасць – неад'емная ўмова міру".

У паведамленні падкрэслена таксама цесная сувязь справядлівасці і правоў чалавека як напамін пра гадавіну Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, з часу прыняцця якой у наступным годзе споўніцца 50 гадоў.

## Лацінская версія Катэхізіса

Падчас прэзентацыі 9 верасня ў Ватыкане лацінскай версіі Катэхізіса Каталіцкага Касцёла прэфект Кангрэгацыі Навукі Веры кардынал Ёзаф Ратцынгер паведаміў, што гэта канчатковая версія. Яна, ў прынцыпе, не адрозніваецца ад папярэдняй французскамоўнай, з якой былі зробленыя шматлікія пераклады. Каля 100 паправак і зменаў удакладняюць тэкст, улічваюць традыцыю і вучэнне Касцёла, найноўшыя дасягненні навукі і г.д.

## Ватыкан не нясе віны за адмену сустрэчы Папы і Маскоўскага Патрыярха

Апостальская Сталіца абвергла сцвярджэнне Маскоўскага Патрыярхату, нібы Ватыкан нясе адказнасць за адмену сустрэчы Яна Паўла ІІ і Алексія ІІ, якая была запланавана на чэрвень г.г. Кіраўнік Папскай Рады садзеяння еднасці хрысціянаў кард.Эдвард Касідзі назваў непачцівым сцвярджэнне аб тым, што Ватыкан прыклаў недастаткова намаганняў для вырашэння канфлікта паміж каталікамі і праваслаўнымі ў заходняй Украіне. Ён сказаў, што ўсе, таксама і Папа, былі расчараваны весткай, якая прыйшла за некалькі дзён да запланаванай сустрэчы, аб адмове "не з нашага боку, але з боку Маскоўскага Патрыярхату".

Кард. Касідзі сказаў, што дзіўнай была рэакцыя Сусветнага Патрыярхату ў Канстанцінопалі на запланаваную сустрэчу Яна Паўла ІІ і Алексія ІІ (нагадаем, што ўпершыню за апошнія 20 гадоў дэлегацыя Канстанцінопаля не наведала Рым 29 чэрвеня, у дзень св.апостала Пятра. – *Рэд.КН*). Прадстаўнік Апостальскай Сталіцы падкрэсліў, што ў праваслаўі з'яўляецца нармальным, калі кожная Царква самастойна ўстанаўлівае адносіны з Рымам. "Мы ніколі не лічылі гэтую сустрэчу нечым такім, што хоць нейкім чынам магло быць скіравана супраць нармальных узаемаадносінаў з Канстанцінопалем", – падкрэсліў кард. Касідзі і дадаў, што Ватыкан жадае развіваць кантакты з Сусветным Патрыярхатам.

# ІТАЛІЯ

## Колькасць сталых дыяканаў павялічваецца

У італьянскім Касцёле цяпер служаць 1956 сталых дыяканаў, а 1001 мужчына рыхтуецца прыняць гэтае служэнне. Адметна, што яшчэ ў 1995г. іх было 1503.

Інстытут сталых дыяканаў вядомы з апостальскіх часоў, але з V ст. ён знік у заходнім Касцёле. 30 гадоў таму Папа Павел VI аднавіў сталы дыяканат у Касцёле, абвясціўшы 18.06.1967 motu proprio "Sacrum diaconatus ordinem", якое канкрэтызавала пастановы саборавай канстытуцыі "Lumen gentium" аб патрэбе вяртання сталага дыяканату. У 1973г. Павел VI у апостальскім лісце "Ad parascendum" устанавіў пэўныя нормы і мэты дыяканату.

Дыяканамі могуць быць і жанатыя мужчыны, калі яны ўзялі шлюб да дыяканскіх пасвячэнняў. Галоўная задача сталых дыяканаў – дапамагаць духавенству ў душпастырскім служэнні. Яны могуць удзяляць сакрамэнты Хросту і Св.Камуніі, благаслаўляць сужэнскія шлюбы, гаварыць казанні падчас Св.Імшы. Важны элемент іхняга служэння ў Касцёле – штодзень сведчыць пра Хрыста ў тых асяродках, дзе яны жывуць і працуюць, куды не заўсёды могуць дабрацца святар або законная сястра.

## Коштам свайго жыцця маці ўратавала дзіцё

27 жніўня ў маленькім мястэчку Caprіglia адбылося пахаванне 31-гадовай Анджэлі Фьёрэнціні. Гэтая маладая замужняя жанчына, у якой выявілася хутка прагрэсуючае анкалагічнае захворванне, добраахвотна адмовілася ад медычных працэдур, якія маглі б палегчыць яе пакуты, каб не пашкодзіць развіццю дзіцяці ў яе ўлонні. У выніку штучна выкліканых родаў – на паўтара месяца раней тэрміну – нарадзіўся Джыанлюча. Яго жыццё ў бяспецы.

# "Місіянерка Любові"

***5 верасня г.г. ва ўзросце 87 гадоў памерла Маці Тэрэса. Жывая легенда, найцудоўнейшы прыклад кансэкраванага жыцця, сумленне нашага часу, увасабленне святла, надзеі і бязмежнай, ахвярнай любові.***

Маці Тэрэса (Ганкшэ Боджакшыу) нарадзілася 27 жніўня 1910 г. у Албаніі. [...]

"Першы раз я пачула голас Божы, голас паклікання ў Летніцы (марыйны дыяцэзіяльны санктуарый на радзіме Маці Тэрэсы. – *Рэд.*), са свечкаю ў руцэ і з гарачым сэрцам прыняла рашэнне: хачу належаць толькі Богу", – успамінала пазней Маці Тэрэса.

[...] Ужо ў 1929г. з Ірландыі сястра Тэрэса прыехала ў Калькуту, у Індыю, дзе ордэн



сясцёр Лярэтанак займаўся адукацыяй бедных дзяцей. У лісце да сваіх родных яна пісала: "...вельмі шчаслівая, што Езус паклікаў мяне менавіта сюды, каб я рабіла больш шчаслівым жыццё найбяднейшых людзей на свеце". Але праца ў школе, дзе сястра Тэрэса выкладала геаграфію і гісторыю, усё менш яе задавальняла. Па-за сценамі школы яна бачыла столькі бяды і галечы, якой не магла нічым дапамагчы, што гэта ні на хвіліну не давала ёй спакою.

У 1942–43гг., у так званыя гады Вялікага Голаду ў Індыі, калі сотні тысяч памíралі на вуліцах, сястра Тэрэса пачула голас Божы, які клікаў яе ісці на гэтыя вуліцы, каб, па яе ж словах, "дакрануцца да Езуса" ў хворых і паміраючых. Так узнікла ідэя стварэння супольнасці сясцёр Місіянерак Міласэрнасці. [...]

**К. Г.**

## Ян Павел II пра Маці Тэрэсу з Калькуты

***7 верасня Ян Павел II прысвяціў сваё разважанне перад малітвай "Анёл Панскі" асобе і жыццю памерлай 5 верасня Маці Тэрэсы з Калькуты. Вось поўны тэкст сказанага Папам:***

*Дарагія браты і сёстры!*

**1.** Для мяне асабліва каштоўным з'яўляецца ў гэтыя хвіліны малітвы ўспамін дарагой Маці Тэрэсы з Калькуты, якая два дні таму закончыла сваю доўгую зямную дарогу. Шмат разоў я меў магчымасць сустрэцца з ёю і жыва захоўваю ў сваёй памяці маленькую постаць асобы, жыццё якой было пранікнута служэннем самым убогім з убогіх. Яна заўсёды была напоўнена невычэрпнай энергіяй, сілай, моцай любові Хрыста.

Місіянерка Любові: ёю была Маці Тэрэса і імем, і ўчынкамі. Яна давала хвалюючы прыклад, які заахвочваў многіх людзей, гатовых пакінуць усё, каб служыць Хрысту, прысутнаму ў бедных.

Місіянерка Любові: яе служэнне пачыналася штодня на досвітку перад Езусам Эўхарыстычным. У маўклівай кантэмпляцыі Маці Тэрэса з Калькуты чула крык Езуса з крыжа: "Прагну!" Гэты крык, прыняты ў глыбіню сэрца, выводзіў яе на вуліцы Калькуты і ў прадмесці па ўсім свеце, каб шукаць Езуса ва ўбогім, пакінутым і канаючым.

**2.** Дарагія браты і сёстры! Гэтая законная сястра, якую паўсюль прымалі як маці ўбогіх, дае выразны прыклад усім, веруючым і няверуючым. Яна дае нам сведчанне прынятай ёю любові Бога, якая цалкам перамяніла яе жыццё ў дар братам. Дае нам сведчанне кантэмпляцыі, якая становіцца любоўю, і любові, якая становіцца кантэмпляцыяй. Яе ўчынкі кажуць самі за сябе і паказваюць людзям нашых часоў найвышэйшае значэнне жыцця, сэнс якога, на жаль, часта здаецца згубленым. Яна любіла паўтараць: "Служыць убогім, каб служыць жыццю". Маці Тэрэса не абмінала ніводнай магчымасці падкрэсліць усімі спосабамі любоў да жыцця. Яна з вопыту ведала, што сярод цяжкасцяў і супярэчнасцяў сваю поўную вартасць жыццё набывае тады, калі сустракаецца з любоўю. І наследуючы Евангелле, яна стала "добрым самарытанінам" для кожнага чалавека, якога сустракала ў сітуацыі якога-небудзь крызісу, цярпення альбо прыніжэння.

**3.** У вялікім сэрцы Маці Тэрэсы асаблівае месца займала сям'я. "Сям'я, якая моліцца, – сказала яна з нагоды першага Сусветнага спаткання сем'яў, – гэта шчаслівая сям'я". Таксама і цяпер словы гэтай незабыўнай Маці ўбогіх маюць сваю сілу.

У час, калі даручым Богу душу гэтай пакорнай вернай законніцы, будзем прасіць Святую Панну, каб Яна падтрымлівала і мацавала законных сёстраў Маці Тэрэсы і ўсіх ва ўсім свеце, хто ведаў яе і любіў".

# Місіянеркі Міласэрнасці жывуць для самых бедных

Маці Тэрэса заснавала Закон Місіянерак Міласэрнасці 9 верасня 1946г. Як манахіня Закону сёстраў Лярэтанак яна ў гэты дзень адправілася з Калькуты на рэкалекцыі ў Дарджэлінг. Падчас доўгай паездкі атрымала, як яна сама сказала, "пакліканне ў пакліканні", каб пакінуць свой ранейшы закон і прысвяціць сябе працы для ўбогіх, жывучы сярод іх.

У 1948г. Папа Пій XII дазволіў ёй пакінуць Закон Лярэтанак. 21 снежня 1948 г. яна ўпершыню пайшла ў трушчобы Калькуты. У той час яна арэндавала два пакоі. Адзін служыў школай, а другі – домам для хворых і канаючых. Бачачы велізарнае поле для працы, Маці Тэрэса малілася аб новых пакліканнях. 19 сакавіка 1949г. да яе далучылася першая сястра, а пазней наступныя. Маці напісала рэгулу. 7 кастрычніка 1950г. закон быў зацверджаны арцыбіскупам Калькуты. Як аблачэнне сёстры прынялі габіт, які яны падпяразваюць шнуром, на габіце носяць характэрныя белыя сары з блакітным пасачкам, якім яны таксама пакрываюць галаву. Пасля навіцыяту 12 першых сёстраў склалі першыя законныя шлюбы 12 красавіка 1953г., а Маці Тэрэса – вечныя шлюбы як Місіянерка Міласэрнасці. 1 лютага 1965г. закон атрымаў папскае зацвярджэнне ад Паўла VI. Разам з традыцыйнымі законнымі шлюбамі чыстасці, убоства і паслушэнства Місіянеркі Міласэрнасці складаюць таксама чацвёрты шлюб: служэння найбяднейшым з бедных.

Праца сёстраў не абмяжоўваецца толькі дапамогай хворым і канаючым. Маці Тэрэса адкрыла дом для пакінутых хворых дзяцей, у якім сёстры між іншага рыхтавалі іх да першай Камуніі. Па меры пашырэння сферы дзейнасці закон адкрываў новыя дамы па-за Калькутай, а ў 1965г. – першы дом па-за Індыяй, у Венесуэле, а потым у Італіі, Танзаніі, Іарданіі, ЗША, Югаславіі і г.д. Па ўсім свеце ў 50 такіх дамах цяпер жыве 30000 пакінутых дзяцей і сіротаў. З 1957г. Місіянеркі Міласэрнасці пачалі дапамагаць пракажоным. У 1985г. у ЗША яны адкрылі першы цэнтр для хворых на СНІД.

10 снежня 1979г. Маці Тэрэса была адзначана Нобелеўскай прэміі міру. Дзякуючы гэтай падзеі, многія краіны адчынілі дзверы перад Місіянеркамі Міласэрнасці.

Асаблівай місіяй закону з'яўляецца праца для збаўлення і асвячэння самых убогіх з убогіх, не толькі ў трушчобах, але і па ўсім свеце. І гэтую міію Місіянеркі Міласэрнасці рэалізуюць праз жыццё любоўю Бога ў малітве і ўчынках, простасці і евангельскай пакоры, служачы Яму ў самых убогіх. Сёстры імкнуцца бачыць і аднаўляць у бедняку вобраз і падабенства Бога. Выконваючы сваю асаблівую місію ў Касцёле, наследуючы пакору Хрыста, яны заўсёды павінны заставацца на апошнім месцы. Гэтую мэту яны выконваюць праз клопат аб самых бедных, служэнне ім ва ўсіх матэрыяльных і духоўных патрэбах да таго моманту, пакуль не знойдзецца хтосьці іншы, хто змог бы дапамагаць ім лепш і больш сістэматычна.

Цяпер сёстры працуюць у 121 краіне, утрымліваюць школы для дзяцей з трушчобаў, пункты медычнай дапамогі і харчавання, дамы для маці, якія адны выхоўваюць дзяцей, дамы для канаючых, прытулкі для бяздомных і пакінутых, дамы для хворых на СНІД і іншыя. У законе ёсць сёстры, якія вядуць кантэмпляцыйны лад жыцця. Існуе таксама Міжнароднае таварыства супрацоўнікаў Маці Тэрэсы.

Фармацыя сясцёр павінна весці да наталення бясконцай прагі Езуса ўкрыжаванага любіць людзей. Гэта выконваецца праз жыццё ў чысціні, прыняцце Ягонага ўбоства, падпарадкаванне ў даверлівай любові сваёй волі – волі Бога, а таксама праз поўную ахвярнасць сябе і радасць духа ў добраахвотным служэнні самым бедным. Маці Тэрэса казала, што людзі галодныя не толькі хлебам, але таксама галодныя любоўю; абарваныя не толькі ў вопратцы, але і ў чалавечай годнасці; бяздомныя ёсць не толькі таму, што яны не маюць жылля з цэглы, але і таму, што імі пагарджаюць, іх не жадаюць, не любяць.

***(Паводле КАІ)***

# Касцёл у Францыі

## эскіз да партрэта

***Ян Павел II, даручаючы Францыі арганізацыю XII Сусветных дзён моладзі ў 1997г., сказаў кардыналу Жан Мары Люсціжэ: "Дзяліцеся тым, што маеце". Напэўна таму на апошнюю парыжскую сустрэчу, былі запрошаны ўсе каталікі Францыі. Аднак, што можа даць Касцёлу адно з найбольш нядобразычлівых да яго і секулярызаваных грамадстваў Еўропы?***

### *Догмат свецкасці*

Гэтай секулярызацыі спрыяе тое, што аддзяленне Касцёла ад дзяржавы, якое пачалося з часоў французскай рэвалюцыі (1789-1795) і канчаткова было юрыдычна замацавана ў 1905г., практычна адмаўляе рэлігіі ў праве прысутнічаць у грамадскім жыцці. Гэтая трохі шызафрэнічная сітуацыя не вынікае непасрэдна з параграфаў дзяржаўных законаў, але з іх надта радыкальнай інтэрпрэтацыі, якую падтрымліваюць – што можа здзіўляць – усе ўплывовыя палітычныя сілы краіны, у тым ліку і тыя, хто ў сваёй дзейнасці грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях. Дзяржаўнай канстытуцыяй было зацверджана, што Францыя з'яўляецца свецкай рэспублікай. Сярод дэмакратычных краін Заходняй Еўропы толькі Францыя ўпісала такую фармулёўку да Асноўнага закона. Але канстытуцыя не акрэслівае зместу дэкларыванай ёю свецкасці. На практыцы ж яна азначае варожае адасабленне дзяржавы і Касцёла. Касцёл, напрыклад, не валодае правамі юрыдычный асобы. Паводле закона 1905г., усе касцёльныя будынкі (касцёлы, кляштары, плябаніі, дзіцячыя прытулкі і г.д.), пабудаваныя да гэтага года, сталі ўласнасцю дзяржавы. Касцёл выкарыстоўвае іх выключна як карыстальнік. Гэта сітуацыя з аднаго боку ўскладняе душпастырскую працу і абмяжоўвае свабоду дзейнасці Касцёла, але з другога – вызваляе яго ад цяжкіх фінансавых абавязкаў, якія толькі ў сферы неабходнага аднаўлення шматлікіх старажытных святыняў (асабліва гатычных катэдраў) складаюць штогод мільёны франкаў, якіх у Касцёла няма.

Іншы вынік заканадаўчага аддзялення Касцёла ад дзяржавы і свецкіх прынцыпаў грамадскага жыцця – гэта фактычнае замыканне Касцёла ў сценах святынь. Працэсію ці Св.Імшу пад адкрытым небам можна ўбачыць вельмі рэдка. Ні ўрад, ні гарадскія ўлады не маюць права даць аніякіх грашовых сродкаў на рэлігійныя мэты. Частка грамадства да такой ступені трымаецца прыгаданых правілаў, што нават пратэстуе супраць дзяржаўнага фінансавання папскіх візітаў. А яны ж маюць не толькі душпастырскае значэнне, але з'яўляюцца таксама афіцыйнымі візітамі ў Францыю кіраўніка дзяржавы-горада Ватыкана.

Некаторыя колы ў краіне ўжо адмовіліся ад разумення свецкасці толькі як аддзялення рэлігіі ад палітыкі. Яны лічаць магчымым прыняць іншае разуменне свецкасці, якое не супярэчыць дэмакратыі. Гэтыя асяродкі акрэсліваюць свецкасць як раздзяленне дзяржаўнай і рэлігійнай уладаў, абсалютную свабоду сумлення і роўнасць правоў. Аднačасова яны рашуча не згаджаюцца з правам навучання рэлігіі ў школе, бо на іх думку, школа павінна навучаць не габрэяў, мусульманаў ці хрысціянаў, а грамадзянаў дзяржавы. У прысутнасці рэлігіі ў школе яны бачаць праяву жадання рэлігійных суполак заняць сферу грамадскага і палітычнага жыцця. Існуюць таксама групы, якія на свецкасці дзяржавы стварылі сваю ідыялогію і абараняюць яе з фундаменталісцкай настойлівасцю. Яны супраціўляюцца ўсялякім публічным праявам рэлігійнасці, бо лічаць, што асваенне гэтай часткі грамадскага жыцця рэлігійнымі групамі будзе раўназначным згубе свецкага характару дзяржавы.

### *Духоўнае багацце*

Аднак спрэчкі аб мадэлі адносінаў дзяржавы і Касцёла не могуць прыхаваць тое, што хрысціянская рэлігія больш за 10 стагоддзяў адыгрывала значную ролю ў жыцці народа і дзяржавы. Менавіта французы першыя ў Еўропе прынялі хрысціянства. Таму Францыю неаднаразова называлі старэйшай альбо першароднай дачкой Касцёла. Адзін з французскіх каралёў Людовік IX (1214-1270) нават быў кананізаваны. Папа Ян Павел II не раз падкрэсліваў, што сапраўдным багаццем гэтага народу з'яўляюцца яго святыя. Папа пілігрымаваў да месцаў пахавання некаторых з іх: Тэрэзы з Лізьё, Жана Мары Вяннэя, Марціна з Тур, Людовіка Мары Грыньён дэ Манфора. Значэнне іх духоўнай дзейнасці на працягу вякоў выйшла за межы Францыі. Тут таксама развіваліся законы, асабліва бенэдыктыны, вялікае абацтва якіх у Клюні каля тысячы гадоў таму было цэнтрам рэформы жыцця Касцёла. Апрача іх, на старонках гісторыі пакінулі цудоўны след і цыстэрцыяне, картэзіяне, дамініканe, з жаночых законаў і кангрэгацый перш за ўсё шарыткі і кармеліткі. На адной з вулачак парыжскага Манмартра знаходзіцца невялікі касцёл, у якім Ігнацы Лаёла з групай сяброў склаў законныя шлюбы і гэтым самым паклаў пачатак ордэну езуітаў.

Гэта з Францыі разышоўся па ўсім свеце культ Сэрца Езуса, якому дала пачатак у XVII ст. св.Маргарыта Марыя Алякок. Такім жа вядомым стаў прыклад міласэрнасці св.Вінцэнта дэ Поль. Дагэтуль існуюць – асабліва ў Брэтані – рэшткі народных традыцый, якія выраслі з хрысціянства і гавораць пра глыбокую ўкаранёнасць веры ў жыццё людзей. Аб яе інтэлектуальнай глыбіні сведчаць імёны Блэза Паскаля, Жака Марытэна ці П'ера Тэйяра дэ Шардэна. Найперш жа Касцёл у Францыі праславіўся сваімі Марыйнымі святынямі. У Люрд, Ля Салет, капліцу Цудоўнага медаліка на ру дэ Бак у Парыжы штогод прыязджаюць мільёны католікаў з усіх кантынентаў.

Да заслугаў французскага Касцёла таксама належыць евангелізацыя вялікай часткі Афрыкі, Акіяніі і Паўднёвай Амерыкі. Французскія місіянеры прынеслі Добрую Вестку і ў Індакітай. Яны і цяпер ёсць у розных частках свету, у тым ліку і як біскупы мясцовых Касцёлаў.

Французская тэалогія ўнесла неацэнны ўклад у аднову Касцёла, звязаную з Другім Ватыканскім Саборам. Тэзісы, выпрацаваныя Івам Кангарам, Анры дэ Любакам, Жанам Даніэлю ці Мары Дамінік Шэню, сфармавалі цяперашняе разуменне Касцёла і паўплывалі на тое, каб ён распачаў евангелізацыйны дыялог са светам. Побач з немцамі і бельгійцамі французы ў апошнія дзесяцігоддзі складалі інтэлектуальны авангард Касцёла.

### *Крызіс святарства пасля Сабора*

Пасля Другога Ватыканскага Сабора Касцёл у Францыі перажыў глыбокі крызіс тоеснасці. Вельмі хуткае ўвядзенне саборных рэформаў, асабліва ў галіне літургіі і жыцці духоўных асобаў, прывяло ў сваіх дальнабачных выніках перш за ўсё да драматычнага зніжэння колькасці пакліканняў, як святарскіх, так і законных. Калі ў 1945г. было 45 тыс. святароў, то пазней, праз 40 гадоў, іх лічба складала толькі 28 тыс. Прагнозы сацыёлагаў гавораць, што ў 2005г. іх будзе ўсяго 8-10 тыс. Але павялічваецца колькасць сталых дыяканаў, якія, аднак, могуць выконваць толькі некаторыя душпастырскія функцыі: удзяляць сакрамэнт хросту, благаслаўляць сужэнствы, прапаведваць.

Змяншэнне колькасці духоўных асобаў выклікала змены ў арганізацыі парафіяльнага жыцця. У многіх дыяцэзіях у некалькі разоў зменшылася лічба парафій. У некаторых месцах ксяндзы жывуць разам і абслугоўваюць па некалькі навакольных парафій. На вёсцы не з'яўляецца рэдкасцю, калі Св.Імша служыцца ў касцёле раз на месяц. У гэтай сітуацыі біскупы прынялі рашэнне аб стварэнні т.зв. нядзельных набажэнстваў, якія адпраўляюцца без святара. Літургію слова праводзяць свецкія людзі, якія таксама ўдзяляюць і Св.Камунію гостыямі, раней кансэкраванымі святаром. У большасці парафій, нават і ў тых, дзе ёсць святар, свецкія займаюцца фінансавымі і канцэлярскімі справамі, падрыхтоўкай да сакрамэнтаў, асабліва хросту і шлюбу, катэхізацыяй і г.д. Усё часцей спецыяльна падрыхтаваныя свецкія праводзяць пахавальныя цырымоніі, але, як паказвае практыка, гэта не заўсёды выклікае адабрэнне з боку вернікаў. Звыш тысячы свецкіх католікаў выконваюць функцыі адміністратараў парафій. Яны таксама маюць адказнасць на дыяцэзіяльным і агульнадзяржаўным узроўнях. Напрыклад, у Ля Рашэль, на кіруючай пасадзе турыстычнага душпастырства дыяцэзіі ўжо год знаходзіцца 40-гадовая жанчына, Жанна Мары Марызэ. Гэтак жа ў 1995г. 52-гадовая Франсуа ля Карэ стала намеснікам галоўнага рэдактара вядомага і папулярнага штотыднёвіка "Etudes", які выдаецца з 1856 г. езуітамі.

Ксяндзы часта хочуць быць больш "у свеце" і "для свету", забываючыся пра тое, што яны павінны быць у ім відавочнымі знакамі Божай рэчаіснасці. Яны адмаўляюцца насіць сутаны, а часам і калараткі. Датычыцца гэта таксама і часткі біскупаў, якія нават на некаторыя касцёльныя святы прыязджаюць у касцюмах, а іншы раз і "пры гальштуку". Ксяндзы не хочуць вылучацца з натоўпу. Звычайны французскі святар баіцца, напрыклад, прыцягваць сваёй дзейнасцю моладзь, каб не быць абвінавачаным у парушэнні "святога" прынцыпа свецкасці. Безумоўна, ёсць і тыя, хто добра працуе з моладдзю. Яны кіруюцца найперш абавязкам евангелізацыі, чым грамадскімі правіламі. Прыкладам можа служыць кс.Гі Жыльбэр, які жыве сярод занядбалай моладзі ў парыжскім прыгарадзе, ці а.Даніэль Анж, які адважна, насуперак пануючай модзе, прапаноўвае маладым людзям жыць у чысціні перад шлюбам.

"Далікатнасць" некаторых духоўных асобаў даходзіць часам да абсурду. Пасля заканчэння другой сусветнай вайны узнік рух святароў-рабочых, якія хацелі займацца апостальствам на месцы працы праз сам факт сваёй прысутнасці ў дадзеным асяроддзі. Гэты рух, нягледзячы на забарону Апостальскай Сталіцы, працягвае сваё існаванне і цяпер. Калі ў аднаго са святароў-рабочых, які працуе кіроўцам аўтобуса, запыталі, ці ведаюць пасажыры, што ён святар, то атрымалі адмоўны адказ, таксама як і на пытанне, ці гаворыць ён сваім пасажырам пра Хрыста. Нягледзячы на гэта, святар быў упэўнены ў апостальскім характары свайго служэння.

Як сведчыць статыстыка, калі 66% французаў лічацца католікамі, дык практыкуе з іх толькі 21%. Рэгулярна ходзіць у касцёл і спавядаецца кожны 10 католік. Хоць палова немаўлятаў ахрышчана ў Каталіцкім Касцёле, да сакрамэнту бежмавання прыступае не больш за 6–7% падлеткаў. Толькі 45% шлюбаў бяруцца ў касцёле. Кожны чацвёрты католік у Францыі верыць у рэінкарнацыю, пры гэтым не бачыць розніцы паміж ёй і Змёртвыхпаўстаннем. Існаванне д'ябла і пекла прызнае толькі адна чвэрць католікаў. Аж 70% французаў лічыць, што кожны павінен вызначаць сваю рэлігійнасць, прымаючы тыя праўды веры, якія лічыць праўдзівымі. Адной са старэйшых дочак Касцёла сёння патрэбна грунтоўная рэевангелізацыя.

### *Шкляныя канфесіяналы*

Апісаныя выпадкі, безумоўна, нельга абагульняць. Шмат французскіх парафій магло б паслужыць прыкладам для пераймання, асабліва, калі ідзе размова аб літургіі, бо ў значнай ступені яна рыхтуецца самімі парафіянамі. Звяртае на сябе ўвагу няспешнасць набажэнстваў і наданне святочнага характару кожнай Св.Імшы. Асаблівай увагі заслугоўваюць такія элементы як сардэчнае пацісканне рукі пры перадачы знаку супакою, падбор песняў да зместу біблійных чытанняў дня, лісткі з душпастырскімі абвесткамі каля ўваходу ў касцёл, якія кожны ўдзельнік Св.Імшы можа ўзяць дадому. Цікавай з'явай таксама з'яўляецца захаванне ў многіх парафіях лацінскай мовы ў сталых частках Св.Імшы. Gloria, Credo, Sanctus, Agnus Dei робяць Эўхарыстыю бліжэй для тых, хто цаніў Трыдэнцкую імшу на лаціне. Апрача таго, гэта адкрывае вернікам паўсюдны характар Касцёла. Здаюцца дзіўнымі некаторыя рэчы: дырыжор падчас Св.Імшы ў алтарнай частцы, ужыванне гліняных келіхаў і патэнаў, адсутнасць Малітвы Верных ці ўвядзенне ксяндзом імправізаваных эўхарыстычных малітваў. На гэтыя і іншыя факты – хоць яны не распаўсюджаныя – звярнуў увагу ў апошні час прэфект Кангрэгацыі Навукі Веры кард. Ёзаф Ратцынгер. Ён бачыць галоўную прычыну крызісу Касцёла, і не толькі ў Францыі, у хуткім і неабдуманым правядзенні літургічнай рэформы.

Несумненна, адна з галоўных праблемаў французскіх католікаў – занядбанне сакрамэнту паяднання (споведзі). Падчас Св.Імшы амаль усе прыступаюць да Св.Камуніі, але мала хто з іх спавядаецца. Вернікі лічаць, што дастаткова шкадавання

за свае грахі і агульнай споведзі напачатку кожнай Св.Імшы. Вынікам таго можа быць знікненне пачуцця грэшнасці. З другога боку, цяжка пачуць у французскіх касцёлах казанні на маральныя тэмы. Фактарам, які адхіляе вернікаў ад споведзі, можа быць тое, што споведзь ужо не адбываецца ў канфесіянале. Часцей за ўсё пенітэнт сядзіць насупраць ксяндза за сталом, што стаіць у шкляной "клетцы" – бакавой капліцы касцёла. У выніку ў вачах вернікаў губляецца ўласцівы сакрамэнту паяднання характар таямніцы.

### Новыя супольнасці

Зніжэнне паклікanняў адчулі таксама супольнасці кансэкраванага жыцця, асабліва жаночыя законы і кангрэгацыі. Датычыць гэта тых, што не мелі харызмату, які выразна б адрозніваў адну кангрэгацыю ад другой. Многія законы былі вымушаны зачыніць частку сваіх кляштараў, а тыя, хто вытрываў, развіваюцца дзякуючы паклікanням з былых французскіх калоній. Пераважная частка маладых манашак паходзіць з Афрыкі, В'етнама, з Японіі і Паўднёвай Карэі. Вялікую частку іх абавязкаў складае апякунства над старымі і хворымі французскімі сёстрамі. Парадаксальна, але на недахоп кандыдатураў не скардзяцца кантэмпляцыйныя законы з суровым статутам. Губляюць значэнне тыя, хто вельмі хацеў стаць падобным да "свету", хто адмовіўся, напрыклад, ад хабітаў і адчыніў кляўзуры.

Аднак, законнае жыццё не выглядае зусім ужо ў чорных фарбах. На тэрыторыі Францыі жыве 55 тыс. законніц з 350 кангрэгацый. Ёсць таксама 13 тыс. законнікаў, якія ў асноўным сканцэнтраваны ў ваколіцах Парыжа. Па іншых краінах, а нават і кантынентах, распаўсюджваюцца новыя, створаныя ў Францыі ў апошнія дзесяцігоддзі супольнасці кансэкраванага жыцця. Манастычныя Ерусалімскія Супольнасці прываблiваюць да сябе прыгажосцю літургіі, якая аб'ядноўвае элементы лацінскай і візантыйскай традыцыяў. Супольнасці "Хлеб жыцця" і "Эмаўс" клапоцяцца пра бедных, пакінутых, непажаданых, пра тых, хто жыве ў галечы. Супольнасць св.Яна прапаноўвае сваім членам вельмі сур'ёзную філасофскую і тэалагічную адукацыю, звязаную з суровым манастычным жыццём. Супольнасці Благаслаўленняў, "Эмануэль", "Новая Дарога" клапоцяцца перш за ўсё аб моладзі. Абшчына Тэзэ рэалізуе харызмат паяднання хрысціянаў. Некаторым з іх біскупы даручаюць кіраваць парафіямі ці арганізоўваць шматтысячныя евангелізацыйныя спатканні. Новыя супольнасці сёння – гэта візітная картка французскага каталіцызму. Епіскапат Францыі звязвае з іх развіццём вялікія надзеі ў будучым, бачыць у іх новую мадэль каталіцызму, – па праўдзе кажучы, больш элітарнага, але і паглыбленага.

### Кардынал Люсціжэ

Кардынал Жан Мары Люсціжэ хоць і не прымас, нават не старшыня Канферэнцыі Біскупаў Францыі, усё ж адыгрывае значную ролю ў касцёльным жыцці краіны. Парыжская архідыяцэзія, якой кардынал кіруе з 1981г., стала своеасаблівай "школай біскупаў". Люсціжэ уласціва камунікабельнасць, у яго з ахвотай бяруць інтэрв'ю ў прэсе і на тэлебачанні. Ён вядзе таксама ўласную праграму на Радыё Нотр-Дам, якое належыць парыжскай архідыяцэзіі.

З поглядамі кардынала лічацца. Аб грамадскім прызнанні арцыбіскупа Парыжа сведчыць прыняцце яго ў 1995г. у ганаровыя члены прэстыжнай Французскай Акадэміі. Ён быў абраны амаль адзінагалосна. Люстыжэ сказаў, што ў кола "несмяротных" ён уваходзіць не як аўтар некалькіх кніжак, але як святар, каб уносіць навучанне Касцёла ў свет культуры і навукі. Заслугоўвае ўвагі таксама душпастырская дзейнасць кардынала. Шмат увагі ён аддае святарскай фармацыі, часта праводзіць рэкалекцыі для ксяндзоў сваёй архідыяцэзіі. Парыжскіх семінарыстаў ён падзяліў на невялікія групы, кожная з якіх жыве ў розных парафіях горада. За перыяд кіравання кардынала Жан Мары ўзрасла лічба кандыдатаў у святары. 11 святароў, якія атрымалі пасвячэнне ў парыжскай дыяцэзіі – гэта лічба, аб якой могуць толькі марыць у іншых дыяцэзіях Францыі. Часта там лічацца поспехам пасвячэнне аднаго святара ў год. Арцыбіскуп Парыжа аднавіў катэдральную літургію, на якую ў час Пасхальнага Triduum збіраюцца вялікія натоўпы людзей.

У час Вялікага Посту арцыбіскуп Парыжа асабіста прадстаўляе слухачам лектара, які штонядзелі гаворыць аскетычныя навучанні ў катэдры, а сам прысутнічае на іх як удзельнік і слухач. Знакамітым жэстам кардынал вітае пасля заканчэння Св.Імшы сабраных людзей. Яны ў сваю чаргу адказваюць, таксама махаючы яму паднятымі рукамі. Часта здараецца, што пасля заканчэння Св.Імшы працэсія духоўных асобаў і міністрантаў даходзіць ужо да закрыстыі, а кардынал Люсціжэ "губляецца" у натоўпе, вітаецца і размаўляе з людзьмі. У Вялікую Пятніцу нясе на плячах вялізны драўляны крыж падчас Крыжовай Дарогі па схіле гары Манмарт.

Ёсць такія, хто сцвярджае, што Люсціжэ з'яўляецца адзіным іерархам, які здольны спыніць крызіс Касцёла ў Францыі. Вернасць кардынала папскаму вучэнню заўважаюць таксама людзі, якія стаяць далёка ад Касцёла. Гэта выклікае ўсмешку на тварах французскіх ксяндзоў, у якіх правілам добрага тону лічыцца крытыкаваць і парушаць выказванні Яна Паўла II.

### Прысутнасць Уваскрослага

"Акрамя перыядаў упэўненасці, Касцёл таксама перажывае ў сваёй гісторыі этапы пошуку. Менавіта на такім этапе мы знаходзімся," – сказаў год таму арцыбіскуп Жан Баланд, мітрапаліт Ліёну і прымас Галіі. Усведамляючы цяжкую сітуацыю ў Касцёле, члены Канферэнцыі Біскупаў Францыі прааналізавалі ў 1995г. набыткі і страты. У апрацаваным біскупам Ангулема Клодам Дагэнам рапарце, яны пастараліся ўказаць на канкрэтныя сферы, якія патрабуюць інтэнсіўнай душпастырскай працы, найперш у маладзёжным асяроддзі. Яны таксама паспрабавалі адказаць на пытанне, як прапаноўваць веру чалавеку, што жыве ў плюралістычным грамадстве, якое не прызнае існавання адзінай праўды. Арцыбіскуп Руана Жазэф Дзюваль заахвочвае Касцёл у сваім краі больш адважна сведчыць і дзейнічаць без адчаю ад праяваў варожасці з боку свету. Падобным чынам кардынал Поль Пупар, старшыня Папскай Рады па справах культуры, заклікае французаў не саромецца свайго каталіцтва і таго, што Касцёл даў Францыі. "Здаецца, шмат асобаў прынялі б каталіцызм толькі пры ўмове, што каталікі адмовіліся б ад сваёй тоеснасці. Але дзень, у які такое сталася б, быў бы днём канца Касцёла ў Францыі," – падкрэслівае кардынал.

*Павел Бялінскі (КАІ)*

**Звыш мільёна маладых людзей з 157 краінаў свету разам з Папам Янам Паўлам II удзельнічалі ў вялікім свяце XII Сусветных дзён моладзі 19–24 жніўня ў Парыжы**

# Ян Павел II:

# *“Яго абвяшчаем як Сілу і Мудрасць, як паўнату Праўды!”*

Працэсіяй святароў, якая расцягнулася на цэлы кіламетр, пачалася 19 жніўня ўрачыстая **Імша, якая адкрыла XII Сусветныя дні моладзі.** Імшу, у якой удзельнічалі амаль 300 тыс. чалавек, адслужыў арцыбіскуп Парыжа кард. Жан Мары Люсціжэ.

На чале працэсіі група маладых прадстаўнікоў усіх кантынентаў несла вялізны чорны драўляны крыж, які падараваў моладзі Ян Павел II у 1984г. на заканчэнне году Адкуплення. Гэты крыж па чарзе перадаецца ў тую краіну, дзе адбываюцца Сусветныя дні моладзі. У працэсіі таксама неслі шматметровы партрэт св.Тэрэсы з Лізьё (Тэрэса ад Дзіцятка Езуса). Імша, якая пачынала сёлетнія Дні, была прысвечана менавіта гэтай святой.

**“Гэта Хрыстус вас запрашае: прыйдзіце і ўбачыце.** [...] Усіх вас шукае Хрыстус, – з моцаю сцвердзіў кардынал. Указваючы на змешчаны побач з алтаром вялікі партрэт св.Тэрэсы ад Дзіцятка Езуса, ён сказаў: “Паглядзіце на фотаздымак: маладая дзяўчына ў вашым узросце, звычайная француженка, Тэрэса Марцін, стала св.Тэрэсай ад Дзіцятка Езуса і Найсвяцейшага Аблічча. Яна таксама шукала Хрыста, – дадаў кардынал. – Сто гадоў таму яна рушыла ў дарогу. Яна шукала самы кароткі шлях: дарогу любові, дарогу Хрыста. У гэтыя дні я запрашаю вас пачаць гэтую дарогу”.

“Бог першы палюбіў нас, – працягваў арцыбіскуп Парыжа. – Ён дае нам свайго ўмілаванага Сына. **Мы можам любіць, бо Бог палюбіў нас.** [...] Гэтая любоў з’яўляецца нашым жыццём, нашай свабодай, нашым шчасцем, нашай радасцю”. Кардынал Люсціжэ таксама ўзняў палеміку аб распаўсюджаным паняцці шчасця, перад якім схіляецца сённяшні свет. “Канкурэнцыя, поспех – гэта цвёрды закон грошай і спорту, які пранізвае нашую свядомасць”. Такому ўзору шчасця кардынал супрацьпаставіў асобу Езуса, які кліча дзіця, ставіць яго сярод натоўпу і кажа: “Каб увайсці ў Валадарства Божае, трэба стаць як дзіцё”. “Менавіта ў беднасці мы становімся заможнымі. У слабасці атрымліваем моц. Калі адкрываем для сябе шаленства любові, становімся мудрымі!” – дадаў Ж. М. Люсціжэ.

**Напярэдадні** пілігрымы літаральна запоўнілі плошчы і вуліцы Парыжа. Яны былі паўсюль, не толькі на тых 150 пляцоўках, дзе адбываліся імпрэзы Фестываля моладзі, які заўсёды спадарожнічае афіцыйнай частцы Дзён моладзі. Станцыі метро былі часта блакаваныя вялікімі натоўпамі пілігрымаў.

**Кожны дзень пачынаўся з катэхезаў,** якія ў розных месцах Парыжа на розных мовах абвяшчалі каталіцкія біскупы. Адбываліся таксама спецыяльныя катэхезы, напр. для людзей з парушанай псіхікай, якіх на спатканні было каля 2 тыс. Падчас такой катэхезы, якая перакладалася на 4 мовы, асаблівая ўвага надавалася сімволіцы жэстаў, мімікі і спеву. Тры катэхезы былі “абвешчаныя” для глухіх.

**Цікавае тэатралізаванае відовішча,** якое прадстаўляла жыцці некаторых святых (Паўла з Тарсу, Стэфана, Жэнеўевы – апякункі Парыжа, Марціна з Тур, Вінцэнта а Паоло, Фрэдэрыка Азанама) паказалі інваліды, якія жывуць у супольнасцях “Вера і Святло”, што заснаваў Жан Ванье.

**У XII Сусветных днях моладзі ўдзельнічала каля 7 тыс. інвалідаў.** Некаторыя тэксты выступаў спачатку перакладаліся на мову жэстаў, а потым – на іншыя афіцыйныя мовы фестывалю. Біскуп Мішэль Дубост сказаў, што ён “хацеў бы, каб гэта стала прыкладам таго, як нашае грамадства павінна глядзець на інвалідаў”.

**21 жніўня Ян Павел II прыбыў у Парыж.** “Папа – гэта павадыр і арыенцір для значнай часткі маладых людзей, якія шукаюць адказу на пытанне пра сэнс жыцця,” – сказаў прэзідэнт Францыі Жак Шырак. Ён дадаў, што яшчэ ніколі так шмат моладзі не збіралася ў сталіцы Францыі.

**“Хрыстус яднае нас у супольнасці дыялогу і салідарнасці,”** – сказаў моладзі Папа Ян Павел II, калі прыбыў на Марсавае Поле, дзе сустрэўся з 500 тыс. маладых людзей. Перад сваёй прамовай Папа падышоў да прадстаўнікоў духавенства іншых веравызнанняў.

“Вы – надзея свету, – сказаў Папа, – вы, якія прагнеце, каб свет станавіўся штораз прыгажэйшым, каб абапіраўся на маральныя і духовыя вартасці, якія робяць нас свабоднымі і накіроўваюць наш шлях да вечнасці”. У разважанні для вечаровай медытацыі, якая адбывалася ў розных святынях горада, Папа напісаў: **“Вы, дарагая моладзь, носіце ў сабе незвычайны патэнцыял дару любові і салідарнасці.** Хрыстус прагне прабудзіць у вас гэтую вялікую здольнасць прысвячаць сябе, якая перапаўняе вашыя сэрцы. Заклікаю вас прыйсці і чэрпаць з крыніцы жыцця, якою з’яўляецца Хрыстус, каб штодзень вы адкрывалі

новыя спосабы служыць братам у грамадстве, у якім павінны выконваць свае абавязкі як людзі і як вернуючыя. Чалавецтва патрабуе вас у грамадскім жыцці, у сферы навукі і тэхнікі. Старайцеся нястомна ўдасканальваць свае прафесійныя здольнасці, каб маглі кампетэнтна выконваць сваю працу, але адначасова не забывайце аб паглыбленні веры, якая будзе для вас святлом ва ўсіх рашэннях, што прыйдзецца вам прымаць для дабра братоў, у асабістым жыцці і на працы. Калі вы прагнеце прызнання вашых прафесійных здольнасцяў, то ці ж не павінны вы таксама прагнуць развіцця вашага духоўнага жыцця, крыніцы ўсялякага чалавечага дынамізму?"

**Супольнасць "Эмануэль"** (Бог-з-намі), якая нарадзілася ў Францыі і цяпер мае свае дамы супольнага жыцця ў розных краінах Еўропы, Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі, **арганізавала евангелізацыйны мітынг,** на які прыйшло 15 тыс. маладых людзей. Малітва, спевы і танцы перапляталіся асабістымі сведчаннямі веры вядомых у Францыі лідэраў рэлігійных супольнасцяў. Між іх слова бралі кс.Гі Жыльбэр, душпастыр парыжскай моладзі з самых нізоў грамадства, які апошнім часам займаецца хворымі на СНІД, рыхтуючы іх годна сустрэць непазбежную смерць. За ім на сцэну выйшаў горача вітаны прысутнымі а.Даніэль Анж, заснавальнік знаных "Школ малітвы", якія цяпер існуюць у некалькіх дзесятках краін, у т.л. у Маскве.

Супольнасць "Эмануэль" арганізавала ў горадзе евангелізацыйныя канцэрты, спектаклі на адкрытых пляцоўках, вялікія малітоўныя спатканні ў спартовых залах, а таксама евангелізацыю ў самых незвычайных месцах Парыжа (напр. у "Бары Пробашча", які быў размешчаны ў sex-цэнтры на адной з парыжскіх вуліц).

22 жніўня ў парыжскім катэдральным касцёле Нотр-Дам **Ян Павел II беатыфікаваў Фрэдэрыка Азанама,** знанага французскага каталіцкага дзеяча, заснавальніка Таварыства св.Вінцэнта а Паоло, піянера каталіцкага сацыяльнага вучэння. Папа прадставіў асобу Фрэдэрыка Азанама як узор для сучасных свецкіх вернікаў, інтэлігенцыі і акадэміцкага свету. "Благаславёны Фрэдэрык Азанам, апостал міласэрнасці, муж і бацька ўзорнай сям'і, знакамітая постаць каталіцкага ляікату XIXст. – быў акадэмікам, які заняў важнае месца ў інтэлектуальным руху свайго часу," – падкрэсліў Ян Павел II. Звяртаючыся да лістоў самога Азанама, Папа працытаваў яго дэвіз: "Навучымся абараняць нашыя перакананні без нянавісці да нашых праціўнікаў, любіць тых, хто думае інакш, чым мы [...] **Не будзем наракаць на нашыя часы, а лепш на саміх сябе!**" Паказваючы прыклад Фрэдэрыка Азанама, Папа дадаў: "Заахвочваю вас, свецкіх, і асабліва моладзь, даць прыклад мужнасці і творчасці ў будаўніцтве больш брацкага грамадства, дзе годнасць самых пакрыўджаных будзе шанавацца, і ў якім яны знойдуць сродкі для годнага жыцця. З пакораю і бязмежным даверам да Божага Провіду, якія былі ўласцівыя Фрэдэрыку Азанаму, будзьце смелымі дзяліцца матэрыяльнымі і духоўнымі каштоўнасцямі з тымі, хто мае патрэбу ў іх."

Таварыства св.Вінцэнта а Паоло, якое заснаваў Ф.Азанам, налічвае сёння 875 тыс. удзельнікаў у 130


Благаслаўёны Фрэдэрык Азанам

краінах свету. Ягонаю мэтаю з'яўляецца дабрачынная дапамога (найперш людзям з грамадскіх "нізоў", эмігрантам і інш.) і ўдзел у розных сацыяльных праграмах. Таварыства ўтрымлівае ў розных краінах некалькі тысячаў разнастайных дабрачынных цэнтраў, шпіталяў і г.д.

22 жніўня Папа накіраваўся да магілы сусветна вядомага генэтыка праф.Жэрома Лежэна, які памёр на Вялікдзень у 1994г. Праф.Жэром Лежэн стаў вядомым пасля таго, як адкрыў прычыну захворвання Даўна, а ў самой Францыі быў адным з найбольш знаных дзеячаў руху абароны жыцця. У свой час Ян Павел II прызначыў праф.Жэрома Лежэна першым кіраўніком Папскай акадэміі жыцця. **Наведванне Папам магілы вядомага ўсім французам праціўніка легалізацыі абортаў і эўтаназіі выклікала шквал крытыкі левых і ліберальных палітыкаў**, якія абвінавацілі Святога Айца ў намеры падарваць свецкія прынцыпы Французскай Рэспублікі.

А ўвечары таго ж дня вязні і наглядчыкі з пяці турмаў аднаго з парыжскіх рэгіёнаў сталі ўдзельнікамі малітоўнага спаткання з Папам Янам Паўлам II.

**"Ланцуг Братэрства".** Раніца 23 жніўня пачалася з гіганцкага "ланцуга брацтва" даўжынёй каля 36 км, у якім побач з удзельнікамі Дзён моладзі сталі і звычайныя парыжане. "Ланцуг" пачаўся спевам "Оды да радасці" Людвіга ван Бетховена як сімвала маладосці і міру. Многія ўдзельнікі "ланцуга" трымаліся за рукі яшчэ да ўмоўленага сігналу, спявалі на сваіх родных мовах.

Увечары на іпадроме Лонгшамп каля 700 тыс. маладых людзей прысутнічалі падчас абраду св. Хросту, які Ян Павел II удзяліў дзесяці прадстаўнікам з розных краёў і кантынентаў свету. "У гісторыі чалавецтва Хрыстус змяніў напрамак жыцця чалавека: **праз сакрамэнт хросту Бог прымае нас сваімі дзецьмі і перамяняе нашае жыццё ў гісторыю любові паміж вамі ды Ім,"** – адзначыў Папа падчас цырымоніі. "Каб ушанаваць гэтыя асноўныя вартасці [духоўнага хрысціянскага жыцця], хрысціяне сустракаюць у сваім жыцці таксама цярпенні, якія могуць быць вынікам маральных выбараў, спрэчных звычаям свету, а часамі нават

гераічных. Але такі кошт мае жыццё ў шчасці з Богам. Такі кошт вашага сведчання. Я спадзяюся на вашую адвагу і вашую вернасць," – сказаў Ян Павел II.

Раніцай 24 жніўня каля мільёна чалавек сабралася на іпадроме Лонгшамп, каб удзельнічаць у Св.Імшы разам з Папам Янам Паўлам II, 500 біскупамі і 6 тысячамі святароў. 20-хвілiннай авацыяй сустрэлі Папу сабраныя на іпадроме. Казанне Папы мела форму жывога дыялогу: моладзь часта перапыняла Святога Айца бурнымі воплескамі.

Паказваючы сэнс хрысціянскай прысутнасці ў свеце, Ян Павел II сказаў: "Кожны з нас мае сваю асабістую гісторыю і носіць у сабе прагу бачыць Бога, якая нараджаецца разам з пазнаннем створанага свету. Гэты свет, цудоўны і багаты, адкрывае перад чалавекам свае разнастайныя багацці, захапляе яго, прыцягвае ягоны розум і волю. Аднак да канца не супакойвае ягонага духу. Чым даўжэй трывае жыццё, тым больш чалавек усведамляе сваю часовасць і тым ярчэй адкрываецца перад ім перспектыва несмяротнасці: што будзе па-за межамі смерці? І тады ў глыбіні ягонай істоты нараджаецца пытанне да Таго, які перамог смерць:"Раввi, дзе жывеш?" Звяртаючыся да словаў св.Паўла, Папа асабліва падкрэсліў сказаў: **"Мы абвяшчаем укрыжаванага Хрыста [...], таго, які ў вачах людзей можа здавацца слабасцю і глупствам, – Яго абвяшчаем як Сілу і Мудрасць, як паўнату Праўды!"** На заканчэнне Папа папрасіў моладзь не затрымлівацца там, а, застаючыся злучанымі ў Касцёле Хрыста, ісці на ўсе шляхі свету. "Трывайце ў прабачэнні і еднасці, будзьце вернымі ласцы хросту, давайце сведчанне Евангелля! Як актыўныя і адказныя члены Касцёла, **будзьце вучнямі і сведкамі Хрыста,** які адкрывае Айца. Трывайце ў еднасці духа, які дае жыццё!"

Падчас Імшы Папа абвясціў, што ў кастрычніку г.г. **св.Тэрэсе ад Дзіцятка Езуса і Найсвяцейшага Аблічча будзе нададзена годнасць Доктара Касцёла.** Св.Тэрэса ад Дзіцятка Езуса (1873-1897), называная Маленькай (у адрозненне ад св.Тэрэзы з Авілю, называнай Вялікай), была кармеліткай, адной з найвялікшых містыкаў мінулага стагоддзя. Блаславёнай і святой абвясціў яе Пій XI адпаведна ў 1923г. і 1925г. Яна стане трэцяй жанчынай (пасля св.Тэрэсы Вялікай і св.Кацярыны Сіенскай), якой нададзены гэты ганаровы тытул. Тытул Доктара Касцёла, альбо настаўніка Касцёла, надаецца найвыбітнейшым святым, якія маюць найбольшыя заслугі для каталіцкай тэалогіі. Дагэтуль тытул нададзены 32 святым, у т.л. Тамашу Аквінскаму, Бернарду з Клерво, Францішку Ксавэры і інш.

24 жніўня, у дзень заканчэння Спаткання, Папа пакінуў Парыж. На развітанне прэзідэнт Францыі, лідэр сацыялістычнай партыі, пратэстант па веравызнанні Леон Жаспэн, назваў Яна Паўла II "адным з вялікіх сведкаў нашых часоў, актыўнасць якога ў справах міру, салідарнасці і шанавання чалавечае годнасці прыцягваюць увагу і выклікаюць павагу".

27 жніўня ў Ватыкане Папа падзяліўся сваімі ўражаннямі ад дзён, праведзеных у Парыжы, з удзельнікамі агульнай аўдыенцыі. На яго думку, XII Сусветныя дні моладзі далі магчымасць свету пачуць з вуснаў дзяўчат і хлопцаў з 160 краінаў, што **"вера ва ўкрыжаванага і змёртвыхпаўсталага Хрыста можа быць асновай новага братэрства",** а Францыя магла адкрыць сваю культурную і духоўную спадчыну, "жывы Касцёл і адкрытае грамадства", – сказаў Папа. Ён падкрэсліў, што моладзь, лік якой перавысіў усе спадзяванні, прыехала ў Парыж, "каб выказаць радасць сваёй веры ў Хрыста і засведчыць прыгажосць быцця разам як члены аднаго Хрыстовага Касцёла". "Гэтыя Сусветныя дні прынеслі маладым людзям, якія шукаюць сэнсу жыцця, адказ: Адкрыйце Хрыста, уцелаўлёнае Слова для збаўлення чалавека, бо Ён асвячае чалавечую таямніцу па-за межамі смерці, дазваляе будаваць грамадства, у якім шануецца годнасць чалавека і братэрства з'яўляецца рэальным", – сцвердзіў Папа і падкрэсліў, што **"свету, параненаму ўсялякага роду падзеламі, скаванаму холадам узаемнай абыякавасці, пакінутаму на прыгнёт усеагульнай адасобленасці, моладзь сказала з Парыжа, што заклік Хрыста, укрыжаванага і змёртвыхпаўсталага, можа стаць асноваю новага братэрства, у якім адны прымаюць другіх, бо ўзаемна любяць адзін аднаго".**

*(Паводле КАІ)*



## ІТАЛІЯ

### Касцёл супраць мафіі

Арцыбіскуп Віторыя Мандэла з вобласці Калабрыя выдаў пастырскі ліст, у якім да ліку грахоў, разграшэнне каторых можа дазволіць толькі біскуп (да іх адносяцца ў тым ліку грэх аборту, эўтаназіі, забойства), далучыў грахі ліхвярства, хабару і вымагання грошай шляхам шантажу. Рашэнне арцыбіскупа з'яўляецца адной са спробаў змагацца з арганізаванай злачыннасцю, што практычна кантралюе частку Калабрыі, якая знаходзіцца на поўдні Італіі.

### Мафія помсціць Касцёлу

У Пазуолі каля Неапаля трое мафіёзі падпалілі парафіяльны будынак пасля таго, як мясцовы пробашч адмовіўся плаціць ім даніну. Невядомыя мужчыны запатрабавалі ў святара "ахвяравання на дапамогу вязням". Уначы парафіяльны дом быў спалены, але пажарнікі здолелі ўратаваць ад полымя касцёл.

### Узнагарода ААН для святара, які працуе з наркаманамі

Італьянскі святар, які працуе з наркаманамі, 66-гадовы Марыё Піччы стаў лаўрэатам прэміі ААН за экалогію духа. 22 гады ён кіруе італьянскім цэнтрам салідарнасці (CEIS), які дапамагае наркаманам. Узнагарода прызначана за вялікі ўдзел святара ў дапамозе непаўналетнім ахвярам наркаманіі. Фундатарам узнагароды з'яўляецца Праграма аб'яднаных народаў у мэтах міжнароднага кантролю за выкарыстаннем наркотыкаў (UNDCP). Папярэднім лаўрэатам гэтай узнагароды быў кароль Тайланда Бімібол.

### М.Гарбачоў: камунізм несумяшчальны з правам Божым

Італія. "Сістэма, ад якой вызвалена мая радзіма, супярэчыла закону Божаму", – сказаў у італьянскім горадзе Салерна першы і апошні прэзідэнт СССР М.Гарбачоў. У размове з мітрапалітам Салерна, арцыбіскупам Джэрарда П'ерра ён таксама выказаў захапленне Янам Паўлам II і станоўча ацаніў выступленні Папы ў абарону найслабейшых і яго імкненне да экуменізму.

## ЗША

### Арцыбіскуп пратэстуе супраць смяротнага пакарання

Арцыбіскуп Арканзас-Сіці пацвердзіў адмоўнае стаўленне Касцёла да смяротнага прысуду, вынесенага судом 41-гадоваму мужчыну, які прызнаны вінаватым у згвалтаванні і забойстве 20-гадовай студэнткі. Гэта першы падобны прысуд пасля 25 гадоў мараторыя на смяротныя пакаранні ў названым амерыканскім штаце. "Гвалтоўныя дзеянні ў імя справядлівасці не могуць быць праўдзівай справядлівасцю. Гэтае рашэнне яшчэ больш набліжае нас да цывілізацыі смерці, дзе жыццё каштуе танна і не мае вялікага значэння", — сказаў арцыбіскуп. "Мы, католікі, верым, што жыццё чалавека святое, святое ад зачацця і да натуральнай смерці, бо прыгадвае нам пра асаблівую лучнасць чалавека з Богам. Гэта тычыцца любога жыцця, нават гэтага, асуджанага на смерць. [...] Гэта [смяротнае пакаранне] не залечыць раны, гэта зробіць толькі прабачэнне", — перакананы каталіцкі іерарх.

### Амерыканскае камерцыйнае тэлебачанне падаравала Касцёлу два каналы

Два спадарожнікавыя тэлеканалы, якія дазваляюць прымаць праграмы на тэрыторыі ўсёй Амерыкі, падаравала Касцёлу амерыканская камерцыйная станцыя "Direct TV". Абодва каналы бясплатна перададзены Лацінаамерыканскай радзе біскупаў (CELAM). Касцёл зможа перадаваць на іх поўную праграму па-партугальску на Бразілію і па-іспанску на іншыя краіны Лацінскай Амерыкі.

### 16 гадоў каталіцкаму тэлеканалу ў ЗША

Тэлевізійная сетка, заснаваная 16 гадоў таму францішканскай законніцай маці Анжэлікай, узяла сабе новую назву – Global Catholic Network (GCN). Гэты канал стаў адным з самых папулярных і моцных у Амерыцы. Ён даступны на англійскай і іспанскай мовах 53 млн. сем'яў у 32 краінах свету. "Першыя праграмы мы перадавалі з гаража, цяпер GCN – адна з найсучаснейшых тэлевізійных сетак, якая карыстаецца новымі тэхналогіямі. Задача нашых праграмаў – дапамагчы несці веру людзям ва ўсім свеце. Мы прагнем абвяшчаць Праўду ўсім народам і плямёнам на ўсіх мовах," – сказала маці Анжэліка.

## ЧЭХІЯ

### Сустрэча законніц

18–23 жніўня ў Празе праходзіла трэцяя сустрэча канферэнцыі генеральных настаяцельніц жаночых законаў з 14 краінаў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, у тым ліку і з Беларусі. Удзельніцы сустрэчы абмяркоўвалі ўмовы і характар дзейнасці законніц у нашым рэгіёне.

## ІЗРАІЛЬ

### Турынская плашчаніца аб раслінным свеце Ерузалема

Адбіткі раслінаў і пыльцы кветак на Турынскай плашчаніцы даюць уяўленне пра раслінны свет ваколіцаў Ерузалема, – сцвярджае батанік з габрэйскага універсітэта ў Ерузалеме. Ізраільскі батанік Авінаам Данін, знаўца расліннага свету Святой Зямлі, сцвярджае, што такія расліны можна сустрэць толькі на Блізкім Усходзе, найперш у рэгіёне Ерузалема і ўзгор'я Кумран над Мёртвым морам. Турынская плашчаніца ўяўляе сабой ільняную тканіну з адбіткам на ёй чалавечай постаці. Паводле традыцыі, менавіта гэтай плашчаніцай было ахінута цела знятага з крыжа Хрыста.

Згодна з вынікамі даследавання, зробленага ізраільскім батанікам, на тэрыторыі паміж Ерузалемам і Кумранам можна знайсці практычна ўсе з 28 распазнаных на плашчаніцы раслінаў. А.Данін падкрэсліў, што хацеў бы абмежавацца толькі пытаннем расліннага свету ў гісторыі Турынскай плашчаніцы і не выказвацца на тэму, ці сапраўды ў гэтую тканіну было пакладзенае цела ўкрыжаванага Езуса.

## ГЕРМАНІЯ

**Плады камунізму ва ўсходняй Германіі**

Амаль 60% жыхароў усходніх зямель Германіі (былая тэрыторыя ГДР) ніколі не ходзяць у касцёл, а 75% сцвярджаюць, што не вераць у Бога. У заходняй частцы Германіі касцёлы не наведваюць 21%, а няверуючымі сябе лічаць 30% насельніцтва. Такія вынікі даследванняў, якія праводзіліся па ініцыятыве берлінскай архідыяцэзіі. Ва ўсходніх землях пражывае 3,6 млн. нямецкіх пратэстантаў (12% ад агульнай колькасці ў краіне) і 780 тыс. каталікаў (3%).

## КАЛУМБІЯ

**Калумбійскі арцыбіскуп заклікаў духавенства да апалітычнасці**

“Святарскае пакліканне несумяшчальнае з палітычнай дзейнасцю”, – заявіў арцыбіскуп Альберта Дж.Харамілло, мітрапаліт Медэліна і кіраўнік Калумбійскай канферэнцыі біскупаў у прамове на 64-м пасяджэнні канферэнцыі. Прамова мітрапаліта стала адказам пяці калумбійскім святарам, якія незалежна адзін ад аднаго вырашылі ўключыцца ў палітычнае жыццё. На думку кіраўніка Епіскапату, духавенства павінна служыць прымірэнню і спакою. “Мы павінны шанаваць палітычныя падзелы і стаць вышэй за іх. Евангелле такое глыбокае, што можа ўспрыняць розныя спосабы палітычнай арганізацыі краіны”, – лічыць арцыбіскуп.

## АЎСТРЫЯ

**Сведкі Еговы не атрымалі афіцыйнага статусу**

Міністэрства адукацыі адмовіла Сведкам Еговы ў дзяржаўным прызнанні арганізацыі. Раней падобнае рашэнне прыняў Федэральны адміністрацыйны суд у Германіі. У выпадку пазітыўнага рашэння Сведкі Еговы, як і іншыя афіцыйныя рэлігійныя супольнасці Аўстрыі, акрамя падатковых ільготаў, мелі б таксама права арганізацыі рэлігійных заняткаў у грамадскіх школах і адкрыцця ўласных школ.

У дакументах Сведкаў Еговы выказваецца “неталерантнае стаўленне” да дзяржавы, дзяржаўных арганізацый і іншых рэлігій, – аргументуе сваё рашэнне аўстрыйскае міністэрства. Нямецкі ж суд вырашыў, што рэлігійная арганізацыя “Сведкі Еговы” не можа прэтэндаваць на прызнанне яе за суб’ект грамадзянскага права, паколькі не дэкларуе трывалага супрацоўніцтва і лаяльнасці да дэмакратычнай дзяржавы.

## ШВЕЙЦАРЫЯ

**Пасвячэнне жанчынаў раз’ядноўвае старакатолікаў**

Старакаталіцкія біскупы не змаглі прыйсці да згоды ў пытанні святарскіх пасвячэнняў жанчын, якому была прысвечана іх адмысловая нарада. У мінулым годзе ў Нямеччыне былі пасвечаны дзве жанчыны, а старакаталіцкія біскупы Швейцарыі, Аўстрыі і Галандыі дапускаюць такую магчымасць і ў сваіх краінах. З гэтым не згаджаюцца некаторыя іншыя біскупы, што можа прывесці да расколу Касцёлаў Утрэхцкай Уніі.

Старакатолікі, якіх у свеце цяпер каля паўмільёна, з’явіліся ў выніку непрыняцця часткай католікаў догмату аб непамылковасці Папы (1871г.). Яны таксама адмовіліся ад цэлібату святароў, нашмат раней за Другі Ватыканскі Сабор увялі нацыянальныя мовы ў набажэнствы, а ў выніку цесных кантактаў з праваслаўнымі тэолагамі адмовіліся ад “filiogue” ў Credo, вызнаюць пастановы толькі сямі першых Сусветных Сабораў.

## ЧЫЛІ

**Кантроль над сектай у Чылі**

Міністэрства справядлівасці Чылі будзе кантраляваць дзейнасць заснаванай у Карэі секты Муна, якая называе сябе “Касцёл з’яднання”. Секту абвінавачваюць у парушэнні правоў чалавека ў форме фізічнага прымусу. Калі гэта пацвердзіцца, яна страціць афіцыйны статус грамадскага аб’яднання. Адзін з чылійскіх тыднёвікаў паведаміў таксама пра інвестыцыі секты ў сферы адукацыі і турызму Чылі.

## БАЛГАРЫЯ

**Увядзенне вывучэння рэлігіі ў школе**

Праз сем гадоў пасля падзення камуністычнага рэжыму ў школы Балгарыі вяртаецца выкладанне рэлігіі. З новага году раз на тыдзень ва ўсіх школах краіны будуць праходзіць факультатыўныя заняткі па рэлігіі. Школьныя падручнікі для катэхізацыі змяшчаюць тэксты Бібліі, іншыя матэрыялы і дакументы, якія датычаць хрысціянства, мусульманства і юдаізму. 85% балгараў праваслаўныя па веравызнанні, 56% насельніцтва краіны пазітыўна ставяцца да ўвядзення навучання рэлігіі ў дзяржаўных школах.

## БРАЗІЛІЯ

**Дзяржава будзе фінансаваць выкладанне рэлігіі**

Выкладанне рэлігіі ў грамадскіх школах Бразіліі ў хуткім часе будзе фінансавацца дзяржаваю, што прадугледжвае новы закон, падпісаны прэзідэнтам гэтае краіны. Згодна закону, урокі рэлігіі будуць мець экуменічны характар. Дагэтуль бразільскае заканадаўства забараняла выдаткоўваць сродкі на выкладанне рэлігіі ў дзяржаўных школах.

# "...Каб захоўвалі і памнажалі веру"

**30 жніўня быў кансэкраваны адноўлены касцёл у Валожыне**

Сотні вернікаў з Валожына і яго ваколіцаў сабраліся 30 жніўня ў валожынскім касцёле св.Юзафа, каб удзельнічаць ва ўрачыстым набажэнстве, якое ўзначаліў кардынал Казімір Свёнтэк. Ён пасвяціў тры касцёльныя званы (адзін, ад беларускіх вернікаў з прысвячэннем юбілею 2000 году, мае назву св.Юзафа; другі падараваны польскім Фондам культуры; трэці – у гонар Маці Божай Вострабрамскай, названы Mater Misericordiae, – валожынскай святыні падаравалі нямецкія дабрачынцы). Яго Эмінэнцыя кансэкраваў касцёл і ўдзяліў Сакрамэнт Бежмавання вернікам.

Нязвыкла было бачыць, што вялікую частку бежмаваных складаюць пажылыя, а часам вельмі старыя людзі. Гэта, безумоўна, плады дзесяцігоддзяў ваяўнічага атэізму, калі касцёл у мястэчку (як і ў многіх іншых гарадах і вёсках) быў зачынены камуністычнымі ўладамі.

Напрыканцы Святой Імшы кардынал Казімір Свёнтэк сказаў: "Я рады, нават больш, – шчаслівы, што змог пасвяціць яшчэ адну адроджаную Божую святыню на нашай зямлі. [...] Хачу падзякаваць усім вам, што захавалі веру ў сваіх сэрцах у часы, калі не было святара, захавалі Касцёл, хоць касцёла як храма не было. Гэтую святыню цяпер вы можаце перадаць сваім дзецям і ўнукам, каб яны захоўвалі і памнажалі веру ў сваіх сэрцах".



Пробашч Валожынскай парафіі а.Томаш Лях і госці свята вітаюць Яго Эмінэнцыю кардынала Казіміра Свёнтка

Кардынал і вернікі валожынскай парафіі асабліва цёпла дзякавалі мясцоваму пробашчу а.Томашу Ляху, які ў свае немаладыя гады так шмат зрабіў для адраджэння хрысціянскага жыцця і храма ў Валожыне.

Мясцовы касцёл быў пабудаваны ў 1806г. Ён ўяўляе сабой трохнававую святыню, перакрытую скляпеннямі, даволі вялікую, чысцютка белую ўнутры. Людміла Паўлава, навуковы кіраўнік рэстаўрацыі касцёла, расказала нам пра святыню і яе адбудову:

"Касцёл пабудаваны ў чыстым стылі класіцызму, мае моцны дэкор. Ягоным аналагам можна назваць катэдральны касцёл у Вільні. Касцёл за сваю 190-гадовую гісторыю практычна не перабудоўваўся, таму зменаў у будове амаль няма. Пасля закрыцця храма, у 60-я гады ў ім размясцілі завадскі цэх, спачатку завода жалезабетонных канструкцый, потым "Тэрмапласта". А гэта – жахлівая хімічная вытворчасць.

Наш рамонтна-праектны інстытут з Мінска пачаў абследаваць будынак касцёла недзе ў 1987г. Тады яшчэ не йшла гаворка пра аднову менавіта святыні, мы падрыхтавалі праект аднаўлення яе як каштоўнага помніка архітэктуры.

Да таго часу, калі пачаліся праектныя работы, парафія ўжо існавала, быў у Валожыне а.Томаш, і з 1990–1991г. мы пачалі ўжо канкрэтную працу па адбудове касцёла св.Юзафа. Калі завод пакідаў гэтыя сцены, літаральна прапітаныя хімічнымі рэчывамі, узнік пажар. Можаце ўявіць, якой рэстаўрацыі патрабаваў будынак. Аднаўленчыя работы, якія часткова за дзяржаўны кошт вядзе Камітэт па рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, не закончаны дагэтуль, бо патрэбныя яшчэ вельмі значныя фінансы. Дзяржава пачала фінансаваць аб'ект, але без дапамогі з Польшчы, Нямеччыны, ахвярнай працы парафіянаў столькі зрабіць не ўдалося б.

Я на свае вочы бачыла, як паступова расла парафія. Спачатку прыходзіла літаральна некалькі чалавек. На першае парафіяльнае свята св.Юзафа сабралася вельмі шмат вернікаў і проста цікаўных людзей. Але парафія стала расці, з'явіліся дзеці, моладзь".


Яго Эмінэнцыя Кардынал К.Свёнтэк пасвячае касцёльныя званы



Пробашч парафіі дзякаваў працавітым і ахвярным вернікам, якія дапамагаюць аднаўляць святыню, шчодрым дабрадзеям з іншых краін. Працы ў Валожыне яшчэ шмат, на гады. Але перад урачыстай Імшой а.Томаш нагадаў усім вернікам, што ёсць іншыя храмы, такія ж недабудаваныя. Ён паведаміў, што ўсе ахвяраванні, якія збяруць падчас Імшы, будуць перададзены на патрэбы аднаўлення катэдральнага касцёла ў Мінску. *"Бо яны ў вялікіх выпрабаваннях горам багатыя радасцю; і глыбокая ўбогасць іх мае багацце іхнае сардэчнасці, бо яны дабрахотлівыя па сілам і цераз сілу — я сведчу гэта"* (пар. 2 Кар 8,2-3).

*Алесь Нешчарда*

*Фотаздымкі З.С.*

# Юбілей Каталіцкай місіі ў Лондане

У жніўні г.г. Беларуская каталіцкая місія ў Лондане святкавала сваё 50-годдзе. Гасцямі місіі на гэты час сталі грэка-каталіцкія святары з Беларусі – а.Віктар Данілаў з Гродна, а.Казімір Ляховіч з Мінска, протапрэзбітар дзекан Ян Матусевіч, а таксама апостальскі візітатар для грэка-католікаў на Беларусі архімандрыт а.Сяргей Гаек і дыякан Андрэй Абламейка.

Па словах а.Яна Матусевіча, да святкавання юбілею місіі была прымеркавана канферэнцыя грэка-каталіцкіх святароў. Першапачаткова такая канферэнцыя планавалася на мінулы год і павінна была адбыцца ў Рыме, але магчымасць сустрэцца ў большасці святароў выпала толькі цяпер. 6 жніўня канферэнцыя пачалася ўрачыстай літургіяй, пасяджэнні доўжыліся тры дні. Святары абмеркавалі жыццё Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі і Лонданскай місіі, а таксама праблемы, якія стаяць перад імі. Асаблівая ўвага была нададзена пытанням кананічнага афармлення царкоўнай структуры на Беларусі і святарскіх пакліканняў. На заканчэнне канферэнцыі яе ўдзельнікі склалі ліст Папе Яну Паўлу ІІ, у якім прыгадалі слаўныя паўстагоддзя дзейнасці місіі і няпросты шлях цяперашняга адраджэння Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі. Святары таксама запэўнілі Святога Айца ў *"адданасці Святому Апостальскаму пасаду і Святой Царкве, часткай якое мы з'яўляемся, пры захаванні вернасці нашай усходняй духоўнай традыцыі"*.

**і. і.**

## ЖЫЦЦЁ ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ

### ПОЛЬШЧА:
### Юбілей Закону Служэбніц Найсвяцейшай Марыі Панны

31 жніўня Закон Служэбніц Найсвяцейшай Марыі Панны святкаваў 50-годдзе сваёй дзейнасці ў Польшчы. Урачыстую літургію ў грэка-каталіцкім катэдральным саборы св.Яна Хрысціцеля ў Пшэмыслі адслужыў арцыбіскуп Ян Мартыняк, мітрапаліт пшэмысльска-варшаўскі. У Літургіі ўдзельнічалі 100 сёстраў з Польшчы, Украіны і Славакіі разам з генеральнай настаяцельніцай Супольнасці. У 13 законных дамах у Польшчы жывуць 82 сястры і 4 навіцыяткі. 13 Служэбніц працуюць катэхеткамі і навучаюць 1500 дзяцей.



# *Біскуп Браніслаў Дэмбоўскі на Беларусі*

***У 1976г., будучы святаром і доктарам філасофіі, Браніслаў Дэмбоўскі заснаваў адну з першых у Польшчы харызматычных групаў. З Адновай у Духу Святым ён пазнаёміўся ў ЗША, дзе збіраў матэрыял для сваёй філасофскай кнігі. У 1984г. епіскапатам Польшчы быў прызначаны адказным за харызматычную Аднову ў Польшчы, а ў 1992г. мянаваны біскупам і ардынарыем Влацлаўскай дыяцэзіі, якая знаходзіцца на захадзе Польшчы. Цяпер у Польшчы налічваецца 700 харызматычных супольнасцяў, якія аб'ядноўваюць каля 26 тыс. вернікаў. На кангрэсы Адновы, якія ў Польшчы апошнім часам адбываюцца штогод, збіраецца 100-200 тыс. чалавек.***

**Некалькі дзён у верасні біскуп Браніслаў Дэмбоўскі знаходзіўся на Беларусі, 6 верасня ўдзельнічаў у кансэкрацыі касцёла ў Светлагорску. 2 верасня ён наведаў парафію ў Барысаве, дзе ўжо сёмы год існуе харызматычная суполка. Наш карэспандэнт папрасіў Яго Эксцэленцыю адказаць на некалькі пытанняў.**

*– Як развіваецца супрацоўніцтва Влацлаўскай дыяцэзіі, якую Вы ўзначальваеце, і Касцёла на Беларусі?*

– Влацлаўская дыяцэзія дапамагае Касцёлу на Беларусі найперш святарамі: пяць святароў з нашай дыяцэзіі працуе ў вашай краіне. Адзін святар рэгулярна прыязджае ў Гродна, дзе выкладае ў Духоўнай семінарыі, прафесарам якой з'яўляецца. Акрамя таго, наша дыяцэзія заўсёды адкрыта для святароў з Беларусі, стараемся аказваць ім дапамогу. Некаторыя парафіі Влацлаўскай дыяцэзіі прымаюць на адпачынак дзяцей, дамагаюць беларускім парафіям, у т.л. матэрыяльна.

*– На Беларусі ўзнікаюць каталіцкія харызматычныя супольнасці. Яны маюць шмат праблем, звязаных з перыядам станаўлення, часта робяць памылкі. Што б Вы маглі парадзіць ім?*

– З моманту, калі чалавек прымае аўтэнтычнае Божае натхненне, слова, ён пачынае інтэрпрэтаваць яго, разумець і тлумачыць пасвойму. Таму вельмі важным з'яўляецца распазнанне, якое павінна рабіць цэлая група людзей, ці сапраўды так трэба разумець гэтае натхненне. Бясспрэчна, і мы ў Польшчы мелі праблемы з людзьмі, якія вельмі пераканана казалі: "Я ведаю ад Пана, што павінна быць менавіта гэтак".

Харызматычную Аднову нельга разглядаць вузка: толькі як пэўны рух у Касцёле. Аднова насамрэч мае больш шырокі сэнс. Гэта сапраўднае адраджэнне духоўнага жыцця ў Хрысце ва ўсіх без выключэння інстытутах Касцёла.

Аднова ў Духу Святым узнімае пытанні, якіх дагэтуль у Касцёле не існавала. Напрыклад, міжканфесійныя экуменічныя спатканні. З такіх спатканняў Аднова нарадзілася. І вось тут узнікаюць праблемы. З'яўляецца небяспека заціранне розніцы паміж вызнаннямі, небяспека індэферэнтнасці: ён – лютаранін і любіць Пана Езуса, я – рымскі католік і люблю Пана Езуса, а таму паміж намі няма ніякай розніцы. Такая небяспека існуе, але нельга сaступаць з экуменічнага шляху. Ян Павел II выразна выказаўся, што з экуменічнага шляху сысці мы не можам.

А што здараюцца памылкі, то гэта непазбежна. Нельга забываць, што хрысціянства цесна пераплятаецца са знешнімі звычаямі. На Беларусі людзі аддавалі жыццё за ружанец ці медалік на шыі. Таму перамены, якія прынёс Другі Ватыканскі Сабор, тут трэба ўводзіць пастунова і асцярожна. Трэба вельмі шмат тлумачыць. Нельга не звяртаць увагі на прорву, якая з'явілася паміж бабулямі"і іхнімі ўнукамі. Бо гэтыя ўнукі выхаваны абсалютна ў іншым свеце. Літаральна ва ўсім формы жыцця маладых людзей зусім іншыя. Таму трэба разумець і шанаваць даўняе, адначасова тлумачачы і паказваючы рэальнасць.

***Запісаў Ігар Іваноў***

## РАСІЯ

### Кансэкраваны новы касцёл

У Новасібірску кансэкраваны новапабудаваныя касцёл Перамянення Панскага і душпастырскі цэнтр. Храм будзе біскупскім касцёлам апостальскага адміністратара для католікаў Сібіры, якім цяпер з'яўляецца біскуп Ёзаф Вэрт. У Сібіры жыве каля 2 млн. католікаў, існуе 18 маленькіх, часцей драўляных касцёлаў і каля 30 часовых месцаў для набажэнстваў. Апякуюцца сібірскімі католікамі 64 святары і 69 законных сясцёр.

### Секты разлучылі 250 тыс. сем'яў

Амаль 250 тыс. сем'яў сталі ахвярамі розных рэлігійных сектаў у Расіі, — паведаміў прадстаўнік генеральнай пракуратуры. Паводле дадзеных міністэрства аховы здароўя, цяпер у Расіі ўцягнуты ў секты ад 3 да 5 млн. чалавек, з іх каля 70% – моладзь 18-27 гадоў. Асабліва непакоіць факт, што 80% людзей, завербаваных у секты, маюць вышэйшую адукацыю, у іх ліку таксама каля 1 млн. студэнтаў. 25-30% з іх кінулі навучанне пад уплывам сектаў.

# *Падарунак напярэдадні свята Узвышэння Святога Крыжа*

6 верасня г.г. каталікі Светлагорска атрымалі незвычайны падарунак: у гэты дзень быў кансэкраваны касцёл Узвышэння Святога Крыжа. Кансэкраваў святыню кардынал Казімір Свёнтэк пры ўдзеле біскупа Влацлаўскай дыяцэзіі Браніслава Дэмбоўскага. Яго Эмінэнцыя, у прыватнасці, сказаў: "Новая святыня ў Светлагорску – гэта відочны знак развіцця Каталіцкага Касцёла на Беларусі. Калі да гэтага новага горада дабраўся каталіцкі святар, то вернікі пажадалі мець храм. І вось сёння гэтая мара збылася. (...) Памнажайце ж веру малітвамі сваімі, учынкамі міласэрнасці і любові да бліжняга... Сёння ў гэтай святыні вельмі многа моладзі. Вы – надзея Касцёла, будучыня яго. Вам і вашым дзецям належыць новы храм. Узрастайце ў веры, прыходзьце сюды, да Хрыста ў Найсвяцейшым Сакрамэнце, як мага часцей, прысвячайце Яму сваё жыццё, у Ім знаходзьце сэнс жыцця і крыніцу духоўнай сілы".

"Некалькі гадоў таму многія з вас не верылі, што касцёл будзе пабудаваны, – сказаў пробашч святыні кс.Ян Саламон. – Сапраўды, было вельмі няпроста і нялёгка. Але такая воля Божая. І вось сёння галоўны дзень для ўсіх нас – касцёл кансэкраваны, г.зн., будынак стаў Домам Божым. Нягледзячы на тое, што касцёл, які быў тут у мінулым стагоддзі, некалькі разоў быў зруйнаваны, з Божай дапамогаю на новым месцы ўзведзена новая святыня, берагчы і клапаціцца пра якую вам, дарагія светлагорцы".

Ксёндз Ян выказаў шчырую ўдзячнасць усім, хто дапамагаў будаваць касцёл, асабліва падкрэсліваючы вялікую дапамогу вернікаў Влацлаўскай дыяцэзіі.

На ўрачыстасці прысутнічалі святары абедзвюх дыяцэзій – Мінска-Магілёўскай і Пінскай – госці з Польшчы, шматлікія вернікі з навакольных парафій.

*Н.*







**УКРАІНА**

## Хрысціянская этыка як школьны прадмет

Хрысціянская этыка як новы прадмет з 1 верасня выкладаецца ў сярэдніх школах Львоўскай, Тарнопальскай і Івана-Франкоўскай вобласцяў. Яе вывучаюць усе вучні незалежна ад веравызнання з 1-га да 11-га класа. Аўтарамі праграмы сталі выкладчыкі Львоўскага універсітэта, выкладчыкі і метадысты Львоўскага інстытута адукацыі. На іх думку, "рэлігійнае выхаванне не супярэчыць свецкаму, але з'яўляецца складовай часткай выхавання ў нацыянальным духу".

Галоўнымі мэтамі курсу аўтары вызначылі "адраджэнне духоўнасці ўкраінскага народу і выхаванне асобы, багатай унутрана і свядомай у сваёй адказнасці перад Богам, Бацькаўшчынай і народам". Таму, акрамя тэкстаў Бібліі, асноў гісторыі рэлігіі і агульнай тэалогіі, курс уключае ў сябе нацыянальна-патрыятычныя матэрыялы і звесткі пра ўкраінскія духоўныя традыцыі. Школьны прадмет, акрамя свайго рэлігійна-этычнага характару, прапануе таксама элементы гісторыі мастацтва, гісторыі рэлігійнай пісьменнасці, пазнаёміць вучняў з асновамі візантыйскай і ўкраінскай сакральнай музыкі.

Вучні 1–4-х класаў даведаюцца пра асновы хрысціянскага погляду на свет і чалавека, пра важнейшыя этычныя паняцці і хрысціянскую сімволіку, галоўныя моманты літургічнага году. З 5-га класа яны пачнуць знаёміцца з біблійнымі тэкстамі, даведаюцца пра некаторых украінскіх святых. Для 7-га класа прадугледжаны курс "Хрыстус як ідэал для наследавання", а васьмікласнікі будуць займацца Дэкалогам. З 9-га класа вучні будуць знаёміцца з асновамі хрысціянскай антрапалогіі, псіхалогіі, гісторыі і філасофіі рэлігіі, этыкі сямейнага жыцця.

Стваральнікі праграмы лічаць, што яна не з'яўляецца тэндэнцыйнай, а экуменічны характар навучання дазваляе ўводзіць яе ў поліканфесійныя школы.

# ПРЫМІЦЕ ДУХА СВЯТОГА

## Сакрамэнт Бежмавання ў Налібаках







У парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны 24 жніўня – у дзень св.Апостала Барталамея, другога апекуна парафіі, падчас Св.Імшы вернікам быў удзелены Сакрамэнт Бежмавання. Пасля адбылася працэсія, пасвячэнне парафіяльнага дому і плябаніі.

Першы касцёл, драўляны, быў збудаваны ў Налібаках у 1447г., у 1699г. за свой кошт яго адбудаваў кс.Альбрэхт Радзівіл. Будынак касцёла згарэў падчас Другой сусветнай вайны ў 1943г. Будова цяперашняга касцёла распачалася ў 1935г. Працаю кіраваў ксёндз пралат Юзаф Байко, налібоцкі пробашч, шамбелян Яго Святасці. У 1943г. ён быў забіты немцамі.

47 гадоў касцёл стаяў без даху. У 1990-1994гг., дзякуючы мясцовым парафіянам і тым, хто цяпер жыве па-за межамі краіны, была скончана будова касцёла і завершаны інтэр'ер. 5 ліпеня 1994г. арцыбіскуп Казімір Свёнтэк кансэкраваў касцёл.

Пробашчам у Налібаках цяпер кс.Мар'ян Шэршань.

*Фотаздымкі Э.В.*

## Сакрамэнт Бежмавання ў Барысаве






7 верасня ў Барысаўскім касцёле Народзін Найсвяцейшай Марыі Панны з рук Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка Сакрамэнт Бежмавання прынялі 144 вернікі Барысаўскай і Жодзінскай парафій. Нягледзячы на слоту і дождж на ўрачыстасць сабралася многа людзей, а таксама выхаванцы музычнай школы, якія спевам і музыкай віталі святароў і новабежмаваных.

**А.**

# Юбілей Мёрскай святыні

9 верасня вернікі ў Мёрах святкавалі 90-годдзе парафіяльнага касцёла. Раздзяліць радасць свята да гаспадароў прыехалі нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, святары з навакольных парафій: кс.дзекан Цырыль Клімовіч, кс.Антоні Лось, кс.Здзіслаў Петрашэўскі. Касцёл у Мёрах перажываў гады вайны і рэлігійнага пераследу. Ён быў адной з нямногіх каталіцкіх святыняў, не зачыненай камуністамі. Пробашчам Мёрскай парафіі цяпер з'яўляецца кс.Уладас Пятрайціс.

***Алег Шэнда***

*Фота аўтара*











## Свята Узвышэння Найсвяцейшага Крыжа

У нядзелю 14 верасня Касцёл святкаваў урачыстасць Узвышэння Найсвяцейшага Крыжа. На Беларусі некаторыя парафіі ў гэты дзень святкавалі таксама свае парафіяльныя святы. Так было, напрыклад, у Светлагорску, дзе касцёл кансэкраваны ўсяго некалькі тыдняў таму.

У Мінску важнейшыя святкаванні гэтае ўрачыстасці адбываліся ў Кальварыйскім касцёле. Як гэта і прынята, на свята парафіі, богаслужэнні былі асабліва ўрачыстымі, да пробашча кс.Альберта Масальскага далучыліся святары з іншых парафій Мінска і ваколіцаў, а вернікі паўнютка запаўнялі святыню на кожнай Імшы.

Нэагатычны каменны касцёл Узвышэння Найсвяцейшага Крыжа, ці, як яго часцей называюць, Кальварыйскі, быў пабудаваны ў 1839г. на месцы старога драўлянага храма. У 1984г. менавіта Кальварыйскі касцёл стаў першай каталіцкай святыняй у горадзе, адчыненай пасля вайны. Набажэнствы ў гэтай парафіі вельмі адметныя, па-добраму "традыцыйныя": яны захоўваюць шмат элементаў (напр. малітвы) Трыдэнцкага абраду, а кожны дзень распачынаецца ў касцёле гадзінкамі да Найсвяцейшай Марыі Панны.

**Н.А.**



**21 кастрычніка 1997г. адбудзецца ўрачыстасць, прысвечаная кансэкрацыі Мінскай катэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны**

На кансэкрацыі будзе прысутнічаць прадстаўнік Папы Яна Паўла II Яго Эмінэнцыя кардынал Эдмунд Шока, а таксама кардыналы і біскупы з розных краінаў свету.

**3-5 кастрычніка**
Рада Епіскапату Еўропы (Чэнстахова, Польшча)

**3-4 кастрычніка**
ў Мядзелі і Нарачы ўрачыстасць, прысвечаная св.Тэрэсе ад Дзіцятка Езус

### Курсы новай евангелізацыі ў Оршы

Ужо трэці год парафія св.Юзафа ў Оршы збірае моладзь з розных канцоў Беларусі на курсы Школы новай евангелізацыі. Гэтыя курсы маюць форму рэкалекцый, які доўжацца ад двух тыдняў да трох дзён і маюць канкрэтную мэту: простай мовай перадаць багацце каталіцкай веры, а перад усім керыгму – асноўны змест Добрай Весткі. Гэтым летам, з 22 ліпеня да 10 жніўня, у Оршы такіх курсаў было тры: Паўла, Ісаі і Супольнасці, а іх удзельнікі сабраліся не толькі з Беларусі, але і з Украіны і Расіі. Курс Паўла – гэта курс, які фармуе евангелізатараў, курс Ісаі вучыць любові да Божага Слова, а курс Супольнасці адкрывае сутнасць хрысціянскай супольнасці.

Падчас курсу Паўла ў Оршу прыехаў Апостальскі нунцый арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, Яго сустрэча з моладзю перарасла ў цікавую размову і пераканала многіх, што быць поўным запалу і энергіі сведкам Езуса Хрыста можна незалежна ад таго, кім ты ёсць і колькі табе гадоў.

*Антоні Бокун*



ПАЛОМНІЦТВА ФІГУРЫ МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ

**Кастрычнік – 1997**
**Гродзенская дыяцэзія**

| | |
|---|---|
| 30.09-1.10 | Белагруда |
| 1-2 | Вавёрка |
| 2-3 | Забалоцце |
| 3-4 | Пеляса |
| 4-5 | Нача |
| 5-6 | Радунь |
| 6-7 | Валдацішкі |
| 7-8 | Осава |
| 8-9 | Жырмуны |
| 9-10 | Воранава |
| 10-11 | Канвалішкі |
| 11-12 | Беняконі |
| 12-13 | Германішкі |
| 13-14 | Тракелі |
| 14-15 | Іўе |
| 15-16 | Дуды |
| 16-17 | Суботнікі |
| 17-18 | Ліпнішкі |
| 18-19 | Геранёны |
| 19-20 | Лаздуны |
| 20-21 | Трабы |
| 21-22 | Юрацішкі |
| 22-23 | Сурвілішкі |
| 23-24 | Гальшаны |
| 24-25 | Багданава |
| 25-26 | Баруны |
| 26-27 | Ашмяны |
| 27-28 | Граўжышкі |
| 28-29 | Анжадава |
| 29-30 | Жупраны |
| 30-31 | Муравана-Ашмянка |
| 31.10-1.11 | Цудзенішкі |

Інфармацыйны бюлетэнь "**Каталіцкія навіны**" №9 (25) 1997
Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла
Рэдакцыйная Рада
Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйны № 686.
Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 10.10.97. Папера афсетная №1, фармат 62 1/8.
Друк афсетны. Друк. арк. 1. Наклад 4000 экз. Зак. 29.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, факс: (0172) 26-90-92.
Катэдральны касцёл Найсвяцейшай Марыі Панны.
Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836, вул.Чкалава, 14.